startravel

ЗАО "Экспо-Трэвэл" Центр Культурных Обменов
Centre for Cultural Exchanges

ДЕШЕВЫЕ АВИАБИЛЕТЫ ДЛЯ СТУДЕНТОВ И МОЛОДЕЖИ

КАРТОЧКИ ISIC

Прямая городская линия 086
тел.: 232-50-28, 232-61-83, 202-00-81
г. МИНСК, ул. СУРГАНОВА 47, ОФИС 8 (ОБЩЕЖИТИЕ БГПА)
Филиал: г. Брест, пр-т. Машерова 94, тел.: 26-35-05
WWW.STARTRAVEL.BY

Ваш шанс найти пару!

**Международное брачное агентство KoTi**

*Создание крепкой и счастливой семьи вот, пожалуй, к чему стремится каждая женщина. А для создания прочного брака необходим серьезный, умный, щедрый, понимающий, словом, достойный человек. С поиском последнего, как раз, и возникают проблемы. И тогда взоры женщин обращаются на Запад, где, как известно, уровень жизни повыше, да и мужчины там не только умеют любить женщину, ценить ее красоту и домашний уют, придерживаются здорового образа жизни, но и сумеют обеспечить семье безбедное существование.*

*Итак, если вы всерьез обдумываете возможность заключения брака с иностранцем значит, ваш путь лежит в агентство KoTi. После заключения договора агентство начнет активный поиск мужчины достойного вас. Мы не обещаем женщине, что ее будут засыпать письмами всевозможные иностранцы нет, ей будут писать только люди с серьезными намерениями.*

*Заключив договор с нашим агентством, вы можете быть уверены, что потенциальный жених будет, по крайней мере, иметь серьезную репутацию и определенное положение в обществе.*

*Отличительной чертой нашего агентства является то, что в работе мы соблюдаем полную конфиденциальность. Это значит, что ни один мужчина без согласия женщины не получит доступ к ее координатам (адрес, телефон).*

*Если по какой-то причине мужчина не показался подходящим что ж, поиск продолжается. И не один отвергнутый поклонник не сможет выразить ей свое недовольство вся связь проходит через агентство.*

*Наши основные партнеры брачные агентства Западной Европы с серьезной репутацией. Случается, однако, что в наше агентство обращаются непосредственно напрямую иностранные мужчины, желающие создать семью. В этом случае соискатель пройдет тщательную проверку, мы будем вести с ним переписку, пока не выяснится, что он абсолютно благонадежен. Ведь только так можно убедиться в истинности намерений претендента на руку и сердце белорусской женщины.*

*Главной целью деятельности нашего агентства является не знакомство, флирт или переписка женщины с иностранцем, а создание крепкой семьи. На счету нашего агентства немало пар, соединенных брачным союзом.*

*Международное брачное агентство KoTi - солидная организация с серьезной репутацией, официально работающая не один год. Мы зарекомендовали себя как агентство, дающее женщине реальную возможность найти достойного спутника жизни.*

*Международное брачное агентство KoTi приглашает незамужних женщин, желающих изменить личную жизнь к лучшему, стать нашими клиентами.*

*Директор Международного брачного агентства KoTi*
*Оксана Тихонова*

KoTi
International Marriage Agency
Тел. (017) 227-84-29, 8-029-638-48-80
E-mail: koti@tut.by





Адчуваю сябе гуманоідам з 6-й старонкі. 4.00 раніцы. Толькі што сеў пісаць гэты самы рэдліст. Тупа ўтаропіўся ў манітор. Адчуваю сябе... так, недзе я ўжо гэта чуў.

У такія хвіліны добра зацягнуцца галяндзкім тытуньком і паразважаць пра былое, адматаўшы час гадкоў так на дзесяць. У пачатку 90-х галяндзкага тытуню не прывозілі, і мы з дружбанамі зашываліся ў сквэрык з пачкам "Космасу". Спрабавалі стварыць банду, нават нешта пілавалі на гітарах "Барысаўдрэў" (бубнач замест бас-бочкі лупіў у стары чамадан). Памятаю, аднойчы на "рэпу" ўваліўся ашалелы сола-гітарыст - як заўсёды ў цэйтноце, затое без "інструмэнта", чаго за ім раней не заўважалася. "Рэбза!!! Адгадайце, за колькі я толькі што загнаў свой "барысаў?" І, ня даўшы ні сэкунды падумаць, гаркнуў: "За 90 баксаў!" "Ды ты гоніш", - нармальная рэакцыя на нармальнае "трызьненьне". Толькі апрытомнеўшы, Талян змог больш-менш уцямна распавесьці чароўную гісторыю пра тое, як сябры пазнаёмілі зь нейкім укураным брытанскім панкам (які і сам ня ведаў, што рабіў in Belarus), і як той, убачыўшы Толікаў нязломак, адарваў яго з рукамі: "Дома аб сцэну разьдзяўбу..."

Такім няхітрым чынам мы атрымалі першы ўрок пабытовага патрыятызму. Стала відавочна, што вучылка ў школе казала праўду: у нас ёсьць нешта такое, чаго там - днём зь ліхтаром. У нас ёсьць "Барысаўдрэў", на якім нельга граць бязь сьлёз, ёсьць глючныя ПЭВМ "Электроніка", і амаль у кожнага ў гаражы стаіць дабіты "Мінскач". У нас ёсьць ТРЭШ. Цяпер зразумела, чаму ў той час кожны трэці гурт зваўся "Дубамі" (хіба што па-ангельску) і зь якога месца вырасьлі ногі ў "Ляпіса".

У 2003-м трэш ізноў на хвалі. Але хваля вярнулася да нас "адтуль" - адфільтраваная і дыстыляваная, у выглядзе т.зв. моды. Самы час для олдскул-патрыятызму, бо наш аўтэнтычны трэш сваёй трэшавасьцю ператрэшыць усе іхныя трэшы. А калі хто ня верыць, дык мы зараз напнем рваныя кеды, падастаем свае барысаўскія - і чосам, чосам!

CD
СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА

## знойдзеш нас у гэтых месцах

- крама **"TOM TAILOR"** (Менск, пр. Скарыны, 37, т. 288-12-44)
- крама **"LEVI'S"** (Менск, пр. Скарыны, 48, т. 288-25-62)
- крама **"ПОДЗЕМКА"** (Менск, пр. Скарыны, 43, т. 288-20-36)
- крама **"БУНКЕР"** (Менск, вул. Казлова, 14, т. 284-93-99)
- крама **"CAMELOT"** (Менск, пр. Скарыны, 44, т. 284-30-14)
- крамы **"МИСТЕРИЯ ЗВУКА"** (Менск, вул. Няміга, 12, т. 289-39-30; пр. Скарыны, 52А, т. 283-23-06)
- ГЦ **"ПАРКИНГ"** (Менск, вул. Куйбышава, 40, крама "FUJIfilm", т. 237-30-33)
- аўтобусы **"INTERCARS"** і офіс **"INTERCARS"** (Менск, вул. Гікалы, 3, т. 284-60-37, 284-60-85)
- крама **"ПЕРЕХОД"** (падземны пераход каля ГУМа, т. 227-41-14)
- крама **"КОМПЬЮТЕРНЫЙ МИР"** (вул. К.Чорнага, 31, т. 284-00-35)
- інтэрнэт-клюб **"iPOINT"** (вул. Румянцава, 15, т. 233-97-25)
- інтэрнэт-цэнтар **"Площ@дка"** (пр. Скарыны, 58-4, т. 239-38-74)
- **"ЦЕНТР МОЛОДЕЖНЫХ ПУТЕШЕСТВИЙ"** (вул. Варвашэні, 17-101, т. 239-17-49)
- ЗАТ **"ЭКСПО-ТРЭВЭЛ", ЦЭНТАР КУЛЬТУРНЫХ АБМЕНАЎ** (вул. Сурганава, 47, оф. 8, т. 232-50-28)

CD **/СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА/ #6 (90) 2003 г.**

**Заснавальнік:** грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"
**Выдавец:** рэдакцыя "Студэнцкай Думкі"

**Галоўны рэдактар** Ірына Віданава

**Рэдактары**
Мікола Шакель /mikalaus@hotmail.com/
Сяргей Сахараў /2ss2@tut.by/

**Камэрцыйны дырэктар**
Аляксандар Казлоўскі /alex-iskander@mail.ru/
/па пытаньнях рэклямы - 8 (029) 626-69-36/

**PR-мэнэджэр** Кацярына Барушка

**Стыль і карэктура**
Алесь Кастыка

**Вёрстка** achuma_group
**Дызайн вокладкі** vitaminv

**Адрас рэдакцыі:** вул. Дарашэвіча, 4-2, 220013, г. Менск
**Тэлефон рэдакцыі:** (017) 213-22-19
**Пэйджэр:** 206-75-75, абанэнт "DYMKA"
**Адрасы для допісаў:** 220030, г. Менск-30, п/с 90
studumka@tut.by
www.studumka.com

Часопіс выходзіць з 1924 г. Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь. Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.

Меркаваньні аўтараў часопіса не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя зьвесткі строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за розйага кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.

Правамі на матэрыялы валодае рэдакцыя часопіса "Студэнцкая Думка". Пры перадрукоўцы матэрыялаў спасылка абавязковая.
Тэксты, якія не замаўляліся, рэдакцыя не вяртае.

Друкарня ТДА "НоваПрынт".
Ліцэнзія ЛП № 285, выдадзеная Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусь 28.07.1998 г.
Фармат 60x84 1/8
Папера мелаваная 90 г/м²
Падпісана ў друк 23.06.2003 г.
Замова № 503
Наклад 3300 асобнікаў
Кошт свабодны

# ЗЬМЕСТ




TRASH MASHINES

8-10




ЦІПА ВЫКЛАДЧЫКІ

25-27



11-12



37-38



20-21



28-29



14-15


| | |
|---|---|
| 4-5 | АДРЭZAK |
| 6-7 | сTRASHны МЕНСК |
| 8-10 | TRASH MACHINES |
| 11-12 | UFO У РАСОНАХ<br>і паўсюль у Беларусі |
| 13-14 | КАХАНЬНЕ<br>пад сафітамі |
| 14-15 | HARD & SOFT<br>top-10 порнафільмаў |
| 16-17 | СПАМ |
| 18-19 | ТЭЛЕ-БАЧ-АНЬ-НЕЕЕЕЕЕЕ! |
| 20-21 | TRASH-MEALS |
| 22-24 | ГВАЛТ У КІНО |
| 25-27 | ПРЭПОДЫ<br>ціпа выкладчыкі |
| 28-29 | СТЭФАН ЛУНДГРЭН |
| 30-32 | СТУДЭНЦКІ<br>сямейны партрэт |
| 33-35 | OPEN AIR<br>летнія фэсты |
| 37-39 | БЕЛАРУСКАЕ ЭЛЕКТРА |
| 40 | ДЭЖАВЮ<br>дошка гонару "CD" |

## шчыроты Мобі

Напярэдадні чэрвеньскіх гастроляў па Цэнтральнай Эўропе Мобі дае інтэрвію нейкаму Сайману Гэйджу/Planet Syndication. У імкненьні пазнаёміць чытачоў з поп-пэрсонай журналіст амаль здолеў залезьці ў глыбіні сьвядомасьці "зоркі". Прынамсі, урыўкі падмурку карціны сьвету Мобі аднавіць удалося.

Пра фобіі: "Злоба і жорсткасьць - вось рэчы, якія я ніколі не змагу зразумець. Нянавісьць да бамжоў, антысэмітызм, гамафобія, расізм… Што прымушае біць безабаронных? Калі шчыра, мяне зусім не хвалюе, хто і што думае. Калі нехта хоча быць гамафобам, антысэмітам ці расістам, мне іх шкада. Абы трымалі сваё меркаваньне пры сабе. Не навязвай мне сваю волю, ня ўзьдзейнічай на мае перакананьні".

Пра хрысьціянства: "Цікава, што прынцыпы, якія дэкляруюцца царквой, ня маюць нічога агульнага з тым, што пакінуў у спадчыну Ісус. Ісус прапаведваў пакорлівасьць, усепрабачэньне і любоў. Калі б царква прысьвяціла сябе служэньню гэтым ідэалам, я думаю, людзі пацягнуліся б да яе".

Пра бісэксуальнасьць: "Так, у мяне ёсьць такі досьвед".

Пра манагамнасьць: "Наагул (сьмяецца), я б ня мог заняцца з кімсьці каханьнем, а пасьля пайсьці да сваёй дзяўчыны, не наведаўшы ў перапынку душ. Тэарэтычна я цалкам ухваляю свабоднае каханьне. Але на пабытовым узроўні я жахліва раўную. Я б дорага даў, каб былі нейкія лекі ад гэтага, бо рэўнасьць - абсалютна неканструктыўнае пачуцьцё".

Якія М/Ж падабаюцца: "Гэта дзіўна, але жанчыны, якія мне падабаюцца, мусяць быць разумнымі. Хлопцы - не абавязкова".

## ай лав лісэум!

Навучэнцы Коласаўскага ліцэю (што на Кірава) становяцца ў першыя шэрагі змагароў за правы беларускіх школьнікаў і студэнтаў. Месяц цягнецца змаганьне ліцэістаў за свайго старога дырэктара Коласа (не паэта) і супраць новай дырэктаркі Шчарбачэвіч. Мінадукацыі, - як высьвятляецца, установа зь дзіўнаватымі замашкамі, - прызначыла ў ліцэй ня менш дзіўнаватую "жэншчыну з Завадзкога раёну гэ Мінска". Таварышка, лексычны слоўнік якой базуецца выключна на дзеясловах загаднага ладу, адразу папярэдзіла, што будзе выконваць усё, што ёй загадаюць зьверху. Дзе той верх знаходзіцца, сказаць цяжка, але спадарыня адназначна прапаведуе вобраз "хто яшчэ хоча камісарскага цела?" Але і ліцэісты - нязломкі. У першы ж дзень яны пачалі маўклівы страйк, сядаючы на лесьвіцы ў холе ліцэю а-ля "Прага, 68". Не хапала толькі АМАПаўцаў, якіх новая гаспадыня і паабяцала выклікаць. Так ці інакш - "Свабода ёсьць розум", "Наш урад - для нас", "Старых дурняў - са школы!" і іншыя лёзунгі ліцэістаў яўна парадавалі б Кастуся Каліноўскага.

IREX/ProMedia




### ці чыталі вы "(Мобі) Дзіка"?

Лысы амэрыканец зь дзіка сумнымі вачыма раскрывае аспэкты прыватнага.

### да "Белселу" падключаюцца

тыя, каму імпануе рэклямная кампанія кампаніі (выбачайце за калямбур). Бясплатныя паштоўкі, якія ёсьць у кожнай менскай кавярні, сьведчаць, што "Белсел" перахапіў мяч у МТС і Velcom і вядзе зь лікам "2:0". Першы гол быў забіты сэрыяй "ЖЗЛ зь "Белселам"; са сьвежага - Хрушчоў і Кастра вітаюць савецкіх дэманстрантаў у позе Мухінай: "Узаемаразуменьне бясцэннае". Другі - тарыфам "Jazzz". Хто хоць зрэдку поўзае ў расейскім нэце, пасьпеў заўважыць рэкляму маскоўскага МТС - тарыф "Джинс". Які дзіўным чынам нагадвае "белселаўскі" "Jazzz" (ці наадварот). Карацей, "Белсел" - чэмпіён!

### basta канфармізм! viva ліцэй!

Будзьце рэалістамі, патрабуйце немагчымага!

### беларускія "зоркі" тырацца

і такім чынам спрабуюць прыцягнуць да сябе ўвагу грамадзкасьці. Калі вы чытаеце гэтыя радкі, свае раны залізвае ці Аляксандар "Памідораў" Крывашэеў (ціпа ды-джэй, музыка і масавік-забаўнік на прээнтацыях) ці Сярога (гл. пазамінулы CD і сёньняшняе Nie). Дзеля чаго яны будуць біцца на рынгу ў "4 апэльсынах" - невядома, але спадзяемся, што насы адзін аднаму паразьбіваюць. Заслужылі.

### хутка Lido

стане рэальным канкурэнтам МакДону і "Бісу". Новая фастфуд-забягалаўка напрыканцы наступнага году мусіць адкрыцца на пр. Скарыны. Нашыя гурманы пасьля разьведкі боем на тэрыторыі латвійскай Рыгі паведамілі, што Lido - гэта нядорага, хутка і як для мэгабістро - смачна. Калі менская рэстарацыя будзе падобная да сваіх латвійскіх сяброў, то нас чакае незабыўнае і прыцягальнае відовішча.








### energie - не для нашых

Італьянцы прыйшлі не туды.

### "навінкі" "адсасалі"

Першы беларускі таблёід з характэрнай назвай "Навінкі" спыніў сваё выданьне. У адным з матэрыялаў анархісты на чале з панам галоўным рэдактарам мелі нахабства назваць рэчы, асобаў і дзеяньні сваімі імёнамі. Каго назвалі і што яму прыпісалі - так і не зразумела. Судовыя інстанцыі сарамліва адводзяць вочы і кажуць, што "нядобра назвалі Добрага Чалавека". Анархі ж у прыватных размовах кажуць, што ўжылі дзеяслоў "адсасаць" у жартаўлівай форме. Такі жарт з барадой, то бок з вусамі.

### гамон дзьмухаўцам!

Менская мэрыя вырашыла, што газоны колеру хакі - добры тон для сталіцы краіны цэнтру Эўропы. У траўні, калі дзьмухаўцы зацьвілі пышным цьветам, высакалобыя дзядзькі вырашылі, што трава ля праезнай часткі гораду Менску мусіць быць толькі зялёнай. Ніякіх жоўтых ці белых колераў. Дзьмухаўцы - па-за законам, і змаганьне зь імі хімічнай зброяй - найпершая справа кожнага гараджаніна!!!

### пашпарт - супраць хардкору

увялі ў менскіх інтэрнэт-клюбах.

### Сярога - артадокс

Наш музычны фаварыт аказаўся заўзятым артадоксам. Праваслаўным зь вялікай рускай літары П. У "сэнксах" сынглу, які зьявіўся ў менскіх і маскоўскіх музычных крамах, ён аддзячвае ўсім і ўся, у тым ліку ледзь ня рускай праваслаўнай царкве, Мітрапаліту і "матухне-Расеі" разам.
Любіш - любі, толькі не публічна.А мы думалі, што Сярога - наш, беларус, блін...

## італьянцы ў менску

Як на наш абмежаваны розум, дык Energie насамрэч "занадта" для нашых. Ве-е-е-е-льмі і не да месца пыхлівых, надуманых і ціпа "ўльтра". Тыя матывы, якія прэвалююць у калекцыі "вясна/лета", толькі пацьвярджаюць: трэш-мода перажывае пэрыяд ракако. Далей клясыцызм. То бок сьмерць. Але як Energie толькі-толькі зьяўляецца ў нас у месцах масавых згрупаваньняў абывателяў, то для Беларусі трэш - у стадыі раньняга рэнэсансу.

Але па парадку.

Пыха. Менскія моднікі паціху пяройдуць на фэшн-стрыт. Гэта было відавочна. Але падлеткавы Fishbone ніколі ня возьмуць. Занадта танна і проста. Менавіта для такіх калекцыі Energie падыходзяць лепей за ўсё: рэчы ад 40 эўра, выдатны тэкстыль, калярыстыка, аплікацыі і іншыя дробязі, якія можна не бяз гонару паказваць камратам па элітных вечарынках. Але толькі там: у горад такое не апранеш. Для "дзялкоў" адна рэмарка: Energie - гэта свабода і правакацыя, а ня танныя (хай сабе і за сотню эўра), на адну ноч шмоткі.

Надуманасьць. Energie is synonymous with young, trendy wear, as well as with a clearly defined lifestyle that places considerable value in anti-conformity and freedom. Дзеля гэтага 19 год таму Wichy Hassan прыдумаў Energie. Яўна не для нашых клеркаў дробных мэгакарпарацыяў, матульчыных і татульчыных сынкоў, дарослых інфантаў - тых, хто нейкім чынам атрымаў доступ да грошай.

Ультра. У калекцыі Energie, што вісіць у менскім "Манэжы" (новае "Дынама" для людзей і машын ля Камароўкі), большасьць мужчынскіх рэчаў пярэстая ад знаку вясёлкі. Для гамафобнутага і наўмысна гамафільнага Менску такое - як выклік. Але хацелася б пабачыць, як горад перапаўняецца модай на нармальнае (то бок не агрэсіўнае і не жанчынападобнае) гома.

Самы жаль: менскі Energie (хутчэй за ўсё як і італьянскі) прыцягальна недасяжны для сапраўдных "злых і бедных".

Карацей, чарговая засада. Ультрасам па жыцьці рэкамэндуецца глядзець і набірацца ідэяў пад DIY. Астатнім - вэк!

## пашпарты ў інтэрнэт-клюбах

Ужо другі месяц у менскіх інтэрнэт-клюбах усіх наведнікаў просяць паказаць пашпарт. Асабліва нахабных просяць альбо прад'явіць дакумэнт і спакойна лезьці ў нэт, альбо валіць прэч, "пакуль міліцыю ня выклікалі". І ня нам вам казаць, што бывае, калі трапіш да апошніх. Між іншым, менавіта яны сталі прычынай "новаўвядзеньня".

На думку супрацоўнікаў Міністэрства ўнутраных справаў Рэспублікі Беларусь, нашая моладзь, якая наведвае інтэрнэт, мае неапраўдана павышаны інтарэс да "жорсткіх рэсурсаў", дзе нярэдка дэманструюцца сцэны гвалту. Гэта выявілі спэцыяльныя рэйды, зьдзейсьненыя ахоўнікамі парадку. Сваю занепакоенасьць за маральнасьць "дзяцей і падрасткаў" яны вырашылі выявіць стандартным - "усе на прышчэпкі!"

І наагул, новая мера "ўведзеная выключна для тых наведнікаў кампутарных клюбаў, якія п'юць, лаюцца і глядзяць порнасайты".

Безумоўна не вітаючы такія паводзіны інтэрнэтчыкаў, варта запытацца ў саміх міліцыянтаў, ці яны не мацюкаюцца, ня п'юць піва і не цікавяцца парнушкай. Ясна, што ня ў клюбах - а наагул.

Але і адміністрацыя нармальных клюбаў не дазваляе розным псыхам бухаць і ананіраваць за кампом. Таму сыстэмныя адміністратары ў адзін голас кажуць, што "патрабаваньне прад'явіць пашпарт ня мае сэнсу".

IREX/ProMedia

У той самы час, калі чарговая міліцэйская праверка выявіць парушэньні, адказнасьць панясе менавіта ўладальнік клюбу. У МУС адзначаюць, што новаўвядзеньне - мера часовая і носіць рэкамэндацыйны характар.


1 2 3 4 5 6



# С TRASH!!! НЫ



# МЕНСК

7 8 9

ТЭКСТ: ПАВАЛ ТОЭН


10 11 12 13


14 15 16 17


18 19 20 21

**НЕ, НУ НЕ ТАКІ ЎЖО МЕНСК І СТРАШНЫ. ГОРАД ЯК ГОРАД, СЯРЭДНЯЯ ПОСТСАВЕЦКАЯ ЭЎРОПА. АГРЭСІЎНЫЯ МАРГІНАЛЫ ДЫКТУЮЦЬ ПРАВІЛЫ ПАВОДЗІНАЎ, СЛАБАВОЛЬНЫЯ ЭЛІТЫ НЕ ДАСТАЮЦЬ НЕЗАСМЭРКАНЫХ НАСОВАК З КІШЭНЯЎ, А АСТАТНІЯ - ПРОСТА ЖЫВУЦЬ, ПЭРЫЯДЫЧНА РАЗМНАЖАЮЦЦА І НАВАТ РАЗУМЕЦЬ НЯ ХОЧУЦЬ, ШТО АДБЫВАЕЦЦА НАВОКАЛ.**

ЯСНАЯ СПРАВА, ШТО ТРЭШ - ГЭТА МОДА. ЗБОЛЬШАГА МІНУЛАЯ ДЛЯ ІХ, АЛЕ ДЛЯ НАС УВЕСЬ ЧАС АКТУАЛЬНАЯ. І ПАКОЛЬКІ ТРЭШ - КУЛЬТУРА ПАМЫЙНІЦЫ, СЭКАНД-ХЭНДУ, А ТАМУ БУЙНАЙ ФАНТАЗІІ, - ДЫК НАМ, БЕДНЫМ І ЗЛЫМ, У САМЫ РАЗ. ГАЛОЎНАЕ, ХОЦЬ НА ПЭРЫЯД ВЫЗНАНЬНЯ СЯБЕ ТРЭШЭРАМ ЗАБУДЗЬЦЕСЯ НА НЕПАТРЭБНЫ СОРАМ І ПРЫМІЦЕ НОВЫЯ ПРАВІЛЫ ГУЛЬНІ.

**ПРА ШМОТКІ ПІСАЦЬ НЕЦІКАВА - ТАМУ ГЛЯДЗІЦЕ, А ВОСЬ ЛАЙФ-СТАЙЛ (ЖЫЦЬЦЁВЫЯ ПРЫНЦЫПЫ) ВАРТА І РАСЬПІСАЦЬ.**

## АСНОЎНЫЯ ВЫЗНАЧЭНЬНІ

Натуральны, паюзаны, сьцёрты, састарэлы, выклічны, трухлявы, блішчасты, плястмасавы.

## ЗЬНЕШНАСЬЦЬ

**Натуральная неахайнасьць**

Трэшэр сапраўды дзіця гарадзкой прыроды. Кіньце ўсе гэтыя вулічныя маскі - мачаў, сэкс-дзіваў, манэкеншчыцаў, рокераў, покераў, шмокераў. Горад - гэта родны дом, вуліца - любімы пакой, і таму любыя публічныя прамэнады трэба разглядаць як пераход са спальні на кухню. Лёгкая непрасаванасьць, разварушанасьць і пакамечанасьць - трэш-шык!

**Падрапанасьць і іншыя дробныя цялесныя непрыемнасьці**

Толькі ня пірсынг і тату. Драпінкі на руцэ, каленцы, шчацэ ды ілбе - нармуль. Някепска, калі выгаленая тоненькая палоска на брыве ці на галаве - як быццам шнар. Задзірыстасьць і жаданьне адлупцаваць розных нягоднікаў прыносіць свае непрыемнасьці.

## СЛОЎНЫ ЗАПАС

**Прывітаньні** - Хао, чувак! Як ты, дзяўчыначка?
**Разьвітаньні** - Чао (бамбіні)! Чус! Алора рагаці!
**Пытаньні** - Рылі? Юшур?
**Яскравыя характарыстыкі** - грэйт, клёвенька, клэба, тэрыбл, хоррар, ацтой ("ц"- сьвісьцяча-шыпячае)

## ГЕРОІ

**Панкі**

Яны сапраўды мілыя: злуюцца бяз дай прычыны зь любой нагоды, паводзяць сябе асацыяльна ў дачыненьні да закансэрваваных, адно што бухаюць і колюцца. Зрэшты, ніхто не перашкаджае аддаваць даніну павагі сэру Малькольму МакЛарэну як вэтэрану панк-руху. Кшталту, "віва пісталеты!" І пры гэтым зусім не абавязкова рок-н-рол і сэкс "шліфаваць" драгзамі.
А так: бліскучыя жалезкі, нястрыманыя прычоскі і хрыплы крык пераможцы.
Яшчэ добры герой - "Мроя", якая першая засьпявала па-беларуску, зрабіла сапраўдны панк і наскандаліла ў такім прыстойным месцы, як Дом літаратараў.

**Софт-рокеры**

"Скарпы", "Дэф Лэпард", "Міт Лоф" і "Ганс'н'роўзэз" - о, яны глямуры! Такія ў бліскаўках, з хаерам і наколкамі ці толькі ў скуры і зь любоўнымі пакутамі на тварах. Насамрэч нічога такога, але заварожваюць патасам!

## ЧЫТВО

**Уцэненыя на распродажах глямурныя часопісы**

Тут і так усё зразумела: "Домовой", "Журнал кроссвордов", "Вокруг света", "Hustler" - народная клясыка не старэе. Наша задача - ператварыць яе ў вечнасьць. Таму можа самы лепшы лёс друкаваных СМІ - перараджэньне ў самвыдатах. Найлепшым чынам выглядаюць састарэлыя Burda і Cool.

**Падпіска на "Вясёлку" і "Barbie"**

Першы безумоўна губляецца на фоне другога: ні табе постэраў, ні табе самаробак, ні табе коміксаў з Кэнам, Муланам і Папялушкай. Зь іншага боку "Barbie" нэрвова паліць: беларусы - дзеці прыроды, і дзе як не ў беларускім дзіцячым часопісе можна знайсьці добрыя ўзоры правядзеньня пікнікоў на прыродзе, у вёсцы, у полі. Валік зь Яняй чытаюць кніжку ў лесе, Волечка з Костусем ідуць у грыбы і іншае.

## КУЛЬТ-ПАХОДЫ

**Кепска разрэклямаваныя канцэрты з удзелам невядомых панкаў**

Самы лепшы варыянт - канцэрт-вечарынка ў СШ №154, самы мажорны - NC. Менск кінуўся ў хвацкі рэгі, ска, нейкі хіп-хоп, і мы ня можам на гэта не рэагаваць!!! Усе ходзяць "дзялкамі" з дрэдамі на галавах, пірсынгам на бровах і нумарамі на сьпінах. Ж-ж-а-а-а-а-а-а-х-х-х!
А тым часам кіч-эліта не шукае простых шляхоў.

**Ільготныя кінасэансы, дзе круцяць мульты**

О-о-о, як мы пакутавалі, калі даводзілася выбіраць паміж "Зьнесеныя зданямі" (Мадэ ін Джапан) і "Лядніковым пэрыядам" (Уолт Дыснэй студыо). Адно ішло ў "Перамозе", другое - у "Міры". Становішча выратаваў вечна малады "Піянэр", дзе дагэтуль круцяць мультзборнікі. Там жа, у царстве мёртвых рыбак і пальмаў у фае, можна паглядзець розныя іншыя кінчыкі для падлеткаў.

**Па даражэзных буціках**

Самае тупое - хадзіць зь ціхім відам сярод цішотак па 100 эўра і рабіць выгляд, што ты "зараз выберыш, а пасьля па грошы дахаты зьбегаеш". Хадзіць трэба з такім выглядам, каб было зразумела, што расфуфыраны буцік і "ацтойныя" прадаўцы ў ім і ёсьць несусьветнай тупасьцю. Публічныя дыскусіі па тэмах "Шалёныя бабкі - і за такое г*но!", "І які балдафон гэта апране?", "Чаму прадаўцы ўвесь час за намі сочаць?", "А рэчы ў іх хто-небудзь выносіць?" прыўнясуць у сьвет "быццам бы глямуру" радасьць сапраўднага жыцьця.

ДЗЕ ТУТ ТРЭШ?

*1, 23. Вася, 19 год - куртка з мотасалёну: прэч скутэры, вяртаймася да "Явы".*
*2. Сьцёпа, 20 - дзе, дзе - на барадзе!*
*3. Таня, 16 - байкаўскія пальчаткі і "вясёлы паркальчык" на торбе.*
*4. Каця, 22 - толькі лайф-стайл: у свае гады быць хатняй гаспадыняй ака клябэр - гэта крута!!!*
*5. Паліна "Лёкса", 16 - самавязаныя гетры і торба. Джага-джага!*
*6. Жэня, ? - гетры, якія спаўзьлі, і поп-юнісэкс: так адкрыта дэманстраваць сваю двуполасьць! Мы ў захапленьні!*
*7. Рустам, 27 - закасаная штаніна: "А зараз я пакажу вам сваю ваву на калене!"*
*8. Фёдар "Фрыдрых", 25 - нідзе: дадаць хаця б адзін элемэнцік у ягоныя клясычныя 70-ыя. Дзе там!..*
*9. Алеся "Матыльда", 20 - яркі чорна-фіялетавы dark wave: маленькая гераіня "Інтэрвію з вампірам" усё ж такі стала дарослай?*
*10. Павал, 21 - кепі бязь верху ў клетку: у такіх робяць барбэкю на лецішчы хакейныя судзьдзі. Ну і несхаваныя лішнія 10 кг - сьмела!*
*11. Вальжына, 18 - пінжак, швэдар Фрэдзі Кругера і ўцягнутая ў плечы галава.*
*12, 17. Таня, 19 - безь перабольшаньняў: яна ўся - эталён, не, сапраўдны ўзор трэшу!*
*13. Ян "Янка", 17 - куртка і кашулька з-пад яе. Калі б ня надпіс, - скін замаскаваны, - такое ўражаньне.*
*14. Жэня, 19 - прычоска: Анджэла Дэвіс пасьля курсу выбельваньня скуры ў савецкай закрытай касмэталягічнай клініцы. Толькі сумныя вочы выдаюць на мянчанку.*
*15. Оля "Розмары", 20 - у паводзінах: "Во ціпа якая я падступная. З келіхам у руках. Але бяру нядорага!"*
*16. Ната, 23 - кеды, джынсы, баечка: Менск ня бачыць прыгажосьці ў простых рэчах - расплюшчыце яму вочы.*
*18. Кірыла, 22 - не, толькі ня тут!*
*19. Юліна, 25 - імя. І толькі.*
*20. Пеця "Піт", 17 - шнар на брыві.*
*21. Іра "Інь-Янь", 18 - кеды, карункі і ружовыя (вы ня ўбачыце) калготы ў сетачку. У астатнім - звычайны менскі фэшнстрыт.*



# trash-machines

тэкст: Слава Бандарэнка
фота: Андрэй Лянкевіч

Вуліцы Менску цудоўныя. У сэнсе, яны заўсёды даюць багаты матэрыял для ўсіх, хто добра разумее сапраўдны трэш. Але мы зараз не пра менскія кавярні, не пра менскіх пешаходаў і нават не пра менскія ходнікі, якія ў апошні час актыўна мяняюць асфальт на модную плітку. Мы пра тое, што з ровам і скрыгатам коціцца побач з тымі ходнікамі па праезнай частцы.

Згодны, у патоку менскіх машын нярэдка можна сустрэць арыгінальныя, кідкія, нават дзёрзкія экзэмпляры, за якімі на кілямэтар струменіцца водар уладальніка - нахабны пах Эгаіста зь вялікай літары. Бачылі мы ў Менску джыпы "Лінкальн" і "Ягуары"-купэ, лімузыны "Кадылак" і падкрэсьлена экзатычныя малышкі "Міні". Нават "Бэнтлі" адзін мільгаў, праўда, зь літоўскімі нумарамі. Але мы зараз зноў не пра іх. Тэма нашых нататкаў - ня Эга, ня Кіч і ня Добры-Дрэнны Густ. Сёньня мы гаворым пра сьціплае, ва ўсіх сэнсах прыпыленае чараўніцтва трэшу. Пра тое, што тысячы разоў везла нас некуды і, што характэрна, прывозіла.

Trash-machines - мы не глядзім ім усьлед. Але іх у нашым жыцьці болей, чым здаецца.

Для зручнасьці падзелім іх на ГРАМАДЗКІ і АСАБІСТЫ ТРЭШ. Такім чынам, Топ-3 таго і другога.





**1. ЛАЗ-695Н.** Год пачатку выпуску - 1973.

Прывітаньне з украінскага Львова (калі прыгледзецца, ззаду напісана серабрыстымі літаркамі: Львів). Праўда, тыя "лазікі", што ледзь-ледзь поўзаюць па Менску, скасабочыўшыся ад мноства народу ўнутры, былі выпушчаныя яшчэ ў СССР, у сярэдзіне 80-х. Яны даўно адпрацавалі і ўжо марац пра звалку, але на іх яшчэ езьдзяць...

Уласна кажучы, "лазікі" задумваліся толькі як прыгарадныя аўтобусы. Адсюль і іх маленькая ўмяшчальнасьць, і зачаткава вузкія дзьверы. Гарадзкія маршруты для іх - забойства. Адбываецца гэта, ясная справа, з-за беднасьці. Вось і курчацца няшчасныя ўкраінцы, робячы працу, для якой яны ў прынцыпе не прызначаныя.

**У ЧЫМ ПРЫВАБНАСЬЦЬ:** хто з нас ня памятае, як сьцюдзёнай зімой прыемна плюхнуцца на мяккае задняе сядзеньне ЛАЗа! Пад ім 150-сільны матор, ад якога цёпла. Па той жа прычыне ў чэрвені-жніўні на заднім сядзеньні ЛАЗа проста плавіцца задніца. Яшчэ плюс - пры сярэдне запоўненым салёне і спрытным вадзіле "лазік" можа выціснуць даволі прыстойную хуткасьць, што прыемна. Зілаўскі рухавік вельмі міла завывае - у адрозьненьне ад ціхага, але крыважэрнага рыку новых МАЗаў-103.

**2. ЗіУ-9Б (ЗіУ-682Б).** Год пачатку выпуску - 1972. Што азначаюць гэтыя грозныя лічбы ў індэксе - напраўду, ня ведаю. ЗіУ - гэта завод імя Ўрыцкага ў прыволскім горадзе Энгельс, адзінае расейскае прадпрыемства, якое штампуе тралейбусы. Прадукцыя заводу ЗіУ езьдзіць па менскіх вуліцах ужо паўвека (старыя мадэлі МТБ-82Д і ЗіУ-5) і, здаецца, паезьдзіць яшчэ.

Баявая афарбоўка менскіх тралейбусаў з гадамі мянялася, прытрымліваючыся моды. Калі верыць паштоўкам канца 50-х, тыя тралікі былі даволі стылёвымі: гарманічнае спалучэньне "жоўты верх - сіні ніз" ці "белы верх - чырвоны ніз". Потым чамусьці вырашылі верх зрабіць белым ці яшчэ горш - маляваць па жоўтым корпусе чырвоныя палосы. Дзесьці з другой паловы 70-х менскія ЗіУ сталі да агіднага нуднымі: зноў дакучлівыя спалучэньні белага зь сінімі паласамі.

Яркай эпохай у жыцьці менскіх тралейбусаў сталі бесшабашныя 90-я, калі бакі і пысы ЗіУ заляпілі вясёленькай рэклямай. Пікам кічу стаў чупа-чупсавы сьлёган "ЛІЗЬНІ МЯНЕ!", намаляваны на тралейбусах мэтровымі літарамі. Асабліва калярытна глядзелася восеньню і зімой, калі бакі транспарту заляпаныя брудам і сьнегам.

Рэклямы і зараз нямала: катаемся мы і ў шэраньkіх, і ў аранжавых тралейбусах з рознымі карцінкамі і заклікамі. Але ў цэлым з сумам прыходзіцца канстатаваць адкат тралейбуснага дызайну на ўзровень канца 70-х - традыцыйнае для Менску спалучэньне сіняга зь белым. У нудныя сіне-белыя колеры пачалі фарбаваць нават зусім новыя тралікі, выпушчаныя ў Менску. Куды коцімся, блін?..



**У ЧЫМ ПРЫВАБНАСЬЦЬ:** ЗіУ-9Б - сапраўды адзін з самых папулярных тралейбусаў сьвету. Нездарма яго канструкцыя з 1972-га амаль не зьмянілася. Адзін з галоўных плюсаў гэтай мадэлі - высокая хуткасьць. Ходзяць плёткі, што на ЗіУ нават ставяць спэцыяльныя абмежавальнікі хуткасьці, каб пасажыры не валіліся адзін на аднаго пры тармажэньні, як кеглі ў боўлінгу.

Іншыя плюсы: цудоўныя архаічныя прабівалкі талёнаў, г.зв. кампостэры, больш падобныя да прыладаў катаваньня. На паперках пасьля застаюцца жудасныя прабоіны, як ад куль буйнога калібру. На самых старых ЗіУ сядзеньні пухлыя, як канапы. На ЗіУ панавей - сядзеньні цьвёрдыя і месца для каленак болей. Наагул, калі хто ня ведае, тэрмін жыцьця тралейбуса - 8 гадоў, ня болей. Але ў Менску можна знайсьці экзэмпляры, якія бегаюць яшчэ зь сярэдзіны 80-х. Я і думаю, чаму гэта перапоўнены 29-ты, у якім я ня так даўно некуды поўз, ціха і з годнасьцю загарэўся. Апынуцца ў траліку, які гарыць, было цікава. Аказалася, што ён вельмі моцна пахне паленай гумай.

**3. "Ікарус-260/280".** Год пачатку выпуску - 1962. Фірма, названая ў гонар няўдалага летуна Ікара, выпусьціла першыя аўтобусы яшчэ ў 1933-м, калі на чале Вугоршчыны стаяў адмірал Хорці. На ўсход ад Брэсту "Ікарусы" зьявіліся ў 1960 годзе - тады СССР закупіў партыю турыстычнай мадэлі "55". Потым былі гарадзкія "180", якімі можна палюбавацца на здымках Менску, зробленых напачатку 70-х. Гэтыя аўтобусы былі белыя з шырокай чырвонай паласой па борце. Жоўтыя 260-ыя і 280-ыя (з гармонікам) зьмянілі іх у 1976-78 гг. Ды так і засталіся. Канечне, тыя жоўтыя "Ікарусы" даўно сьпісаныя. Але ў другой палове 90-х на менскіх вуліцах іх замянілі купленыя за бясцэнак у былых ГДР, ЧССР і ПНР - якія ледзь поўзаюць, страшэнна дымяць, нярэдка яшчэ скрэмзаныя нямецкімі, чэскімі і польскімі рэклямамі.

**У ЧЫМ ПРЫВАБНАСЬЦЬ:** агульнавядома, што "Ікарусы" разганяюцца вельмі павольна і бурклівa, дзьверы ад-






чыняюцца з жудасным зьмяіным шыпеньнем, паўзуць па горадзе павольна. Некага гэта злуе. Мяне - зрэдку.
Яшчэ плюсы: "гармонік", што рамантычна рыпіць гумай, зь якой узімку ўвесь час нешта ліецца.

## ТОП-3 АСАБІСТАГА ТРЭШУ

### 1. "Фальксваген-Гольф-II".

Дата выпуску - 1983-91. Вось ужо хто на 100% апраўдвае сваю ўласную назву. У Менску "гольф" (і яго сястрычка-сэдан "Джэта") стаў сапраўды народнай машынай.
Для свайго часу "гольфік" быў нядрэннай машынкай і ў 1984-87 гадах трымаў лідэрства па продажы ў Эўропе. Уласна, у яго ёсьць адзіны мінус, які і робіць гэты аўтамабіль трэшавым: ён атрымаўся папросту ніякім, гэта машына як такая, без усялякіх адметнасьцяў. Такой некалі была "капейка". Магчыма, гэта і забясьпечыла другому "гольфу" жудасную папулярнасьць на тэрыторыі РБ. Арыгінальнасьць у гэтай краіне, як вядома, не заахвочваецца. Таму я б нават карціну такую напісаў - "Беларусь". І намаляваў бы шэранькі "гольф" году гэтак 88-га, які пыліць па прасёлку. За рулём - сынок-гопнік з голенай галавой. Побач зь ім - п'яненькі бацька з бутэлькай "Крыніцы", на заднім - пяціпудовая матуля. І мех бульбы ў багажніку.
**У ЧЫМ ПРЫВАБНАСЬЦЬ:** дубовы, высечаны сякерай салён. Ужо не сустракаецца на сучасных машынах. Звычайна моцна пракураны балбатлівым вадзілам-Гадзілам. Вадзіла мацюкаецца праз слова - па-іншаму ня ўмее.
**КАНКУРЭНТЫ Ў НАМІНАЦЫІ:** "Фальксваген-Пасат", "Форд-Эскорт", "Опэль-Аскона", "Опэль-Кадэт".

### 2. "Аўдзі-80".

Гады выпуску - 1986-94. Так званая "бочка" карыстаецца ўстойлівым попытам сярод звольненых у запас маёраў, былых дробных бандзюганаў, расчараваных у жыцьці інтэлігентаў, бадзёрых старычын, самадзейных таксоўшчыкаў, 45-гадовых кабет і іншага зброду. Каб набыць такую машыну, трэба быць хіба што троху больш вытанчаным, чым "гальфісты", але не нашмат.
"Аўдзюхі", якія нагадваюць сваімі лякіраванымі цэламі тлустых селядцоў, надакучліва лезуць у вочы на вуліцах, увасабляючы мару мідл-клясы аб даступнай раскошы. У гэтую катэгорыю ўпісваецца таксама ня менш забойная па пошасьці мадэль 100. Мадэлі 90 і 200 трапляюцца аднsocна рэдка, таму ня трэшавыя. У "двухсотцы" ёсьць нават своеасаблівы шык.
Існуюць такія старэнькія, ня дутыя, да 86 году "васьмідзясяткі". Але гэта таксама ня трэш - як і ўсялякія "Опэлі-Рэкорды" і "Форды-Гранады". Гэта сыходзячая эпоха 70-х, якую трэба вывучаць і паважаць. Ім засталося нядоўга.
**У ЧЫМ ПРЫВАБНАСЬЦЬ:** на пярэднім сядзеньні ўтыкаесься галавою ў столь. Задуменна дуе кандышн. Вадзіла мацюкаецца ўжо не праз слова, а зрэдку. Можа і нешта разумнае ўвярнуць. А на панэлі чытаем чульлівыя плястмасавыя словы: Audi 80. А то мы і так ня ведалі, блін.
**КАНКУРЭНТЫ Ў НАМІНАЦЫІ:** "Рэно-19", "Мазда-626".

### 3. "Мэрсэдэс" са 123-м кузавам.

Мадэляў шмат: 200, 220, 240... Але самыя папулярныя, ясна, 200D і 240D. Гады выпуску - 1978-85. Мабыць, найбольш стылёвы з усіх вышэйпералічаных сьмецьцявозаў, калі стылёвым можа лічыцца нешта безнадзейна замасоленае. У савецкія часы менавіта гэтыя "мэрсы" (да зьяўленьня 126-га кузава) увасаблялі мару простага рабочага чалавека аб сытым заходнім жыцьці. Як ні дзіўна, 123-ці да гэтага часу захаваў культавы статус і нават у забітым стане каштуе ня меней за 1200 зялёных.
Модна зразумець: чароўны старажытны дызайн, чульліва падрабязны і нагадваючы любімы дзіцячы пакойчык; цудоўныя хадавыя якасьці; непрабівальная нямецкая надзейнасьць. Ва ўсім добрая машына. Адна фігня: вельмі ж іх шмат. Дарэчы, купэ глядзяцца амаль эксклюзівам. А стрэч на базе 123-га кузава і наагул мог бы стаць культавым. Але ў Менску я іх нешта пакуль ня бачыў. Хаця ў свой час іх нямала панавыпускалі для патрэбаў ФРГшных таксовак.
**У ЧЫМ ПРЫВАБНАСЬЦЬ:** ва ўсім. Дызэльныя "мэрсы" ласкава і вельмі характэрна буркочуць на нізкіх нотах. Мілыя круглячкі гадзіньнікаў на панэлі. Найзручнейшыя ў сьвеце падлакотнікі з прыгожымі нікеляванымі накладкамі. Вельмі мяккі і плаўны ход. Утульна. Вадзіла звычайна спакойны, памяркоўны, падобны да машыны. Хаця мацюкацца, безумоўна, умее і любіць.
**КАНКУРЭНТЫ Ў НАМІНАЦЫІ:** "Мэрсэдэс" са 126-м кузавам.







UFO Zine / UFO Zine / UFO Zine / UFO Zine / UFO Zine / UFO Zine / UFO Zine / UFO Zine / UFO Zine / UFO

# UFO У РАСОНАХ!!!

## і паўсюль у Беларусі!!!

Валік Папляяеў

**_У сьнежні мінулага году зьявіліся першыя паведамленьні, што ў вёску пад Расонамі (геаграфічную даведку не даем з прычыны амаральнасьці пытаньня) завіталі іншаплянэтнікі. У ноч зь 10 на 11 тутэйшыя бачылі незвычайны водсьвет у небе. А раніцай сярод збожжа вяскоўцы знайшлі дзіўныя сьляды: вялікае кола, 10 мэтраў у дыямэтры, вакол якога месьціліся тры меншыя. Дакладнага тлумачэньня гэтага факту дагэтуль няма. І ўжо наўрад ці будзе._**
**_Вам, канечне, як і большасьці людзей, да гэтага няма ніякай справы. А ў мяне пад Расонамі лецішча. Драўляны дамок сярод мёртвых хат, гаспадары якіх шчасьліва зьехалі на могілкі._**

**_НЕМАВЕДАМА ШТО Ў РАСОНАХ_**
*Баба Соня выпадкова знайшла вечны спакой у хляве, куды завітала пад градусам, у лужыне экскрэмэнтаў сваёй каровы. Тую яна заўсёды песьціла як магла. А карова невыносна мычала ўсю ноч.*
*Старога суседа павезьлі ў Расоны, каб ампутаваць нагу - пачыналася гангрэна пасьля няўдалай апэрацыі. Той памёр, не вяртаючыся да прытомнасьці. Жонка яго пасьля гэтага на нэрвовай глебе захварэла на рак і таксама памерла праз паўгода.*
*Мінулай зімой піцерскі бомж, былы філёляг, які жыў насупраць (за пляшку слабаалькагольнай мікстуры ён аддаў нам раман расейца Крастоўскага "Петербургские трущобы" і сшыткі з уласнымі юнацкімі вершамі), вяртаўся з гулянкі, заваліўся ў сумёт і зьмерз.*
*Сына суседкі, які прыехаў да маткі дапамагчы зь сенакосам, забіла токам, калі той чыніў праводку.*
*Маладую дзеўку-прадаўшчыцу з бліжняй вёскі, калі тая вярталася лесам з працы, мясцовы хлопец пасек сякерай на кавалкі і там жа закапаў. Потым на скрадзеныя грошы праставўляўся сябрам трое сутак, пакуль яго не скруцілі міліцыянты. "Добры хлопец, вучылішча скончыў, бацькам дапамагаў, што гэта на яго найшло?" - дзівіліся потым вясковыя бабкі.*



*...Характэрна, што ля вёскі, у лясным гушчары, ёсьць возера з калярытнай назвай Душагубка. Называецца яно так, бо па легендзе ў ім патанула панская дачка, якая калісьці спазнала няшчаснае каханьне, запаўшы на маладога пастуха-жабрака. Бацька-пан, дазнаўшыся пра пачуцьці дачкі, загадаў пастуха ўтапіць. Дачка не стрымалася і пайшла за каханым сьледам.*
*Па вэрсіі вяскоўцаў, возера ня мае дна. Замест рыбы - косьці людзей і жывёлаў. Вядома, што без паранармальных іншаплянэтных сілаў тут не абыйшлося. Закрадаецца думка, быццам бы ўвогуле іншаплянэтнікі абралі гэтую частку Расоншчыны ў якасьці зоны для сваіх экспэрымэнтаў. Як яшчэ можна растлумачыць, што ўся вёска адкідае капыты рознымі экзатычнымі спосабамі?*

*"Нам усё роўна па ***, - кажа мясцовая жыхарка Ганна Х., - гуманоіды ці яшчэ якая халера. Ад сьмерці не ўцячэш. Можа, у гэтым дэкадэнцкім сьветаадчуваньні, дарэчы, і ёсьць прычына майго алькаголізму".*

**_ЛЮДЗІ-АГУРКІ_**
*Вяскоўцам сёньня не да вершаў. Яны напалоханыя сьмяротнымі выпадкамі так, што арганізавалі начны патруль, які сядзіць у будынку старой фэрмы. Мэта гэтай грамадзянскай ініцыятывы мае ярка выражаны інстынктыўны пачатак. Каго патруль павінен злавіць, вяскоўцы самі ня ведаюць. Падчас майго візыту ў вёску ў патрулі было трое: беспрацоўны Пятро Д., школьнік на вакацыях Дзяніска (год 14) і пачэсны пэнсіянэр калгасу "Чырвоны партызан", да якога адносіцца вёска, Ёэзф Блюм.*
*...Мужчыны сядзяць ля вогнішча, пякуць бульбу. Гатовы Дзяніска ладзіць старэйшым касякі, Пятро пацягвае папулярную ў гэтых мясьцінах чачу з бадзюляй. Я пытаюся ў патрульшчыкаў: "Якая канчатковая мэта вашай ініцыятывы?"*
*Першым на пытаньне рэагуе Ёэзф Блюм:*
*- Канчатковая мэта нашай ініцыятывы - даць *** усім, хто*





***Банальна, але факт: чалавецтва жыве ў стане пэрманэнтнага стрэсу. Стрэсу ад разраджаных акумулятараў мабілак, ад маруднага інтэрнэту, тэлерэклямы праз кожныя 15 хв. і стосу нечаканых лістоў сумнеўнага паходжаньня ў паштовай скрыні. Апошняе дастае асабліва: колькі можна атрымліваць пастаянныя прапановы жуек з водарам маліны, новых аўтамабіляў у крэдыт і penis elargment (гэта прытым, што падчас рэгістрацыі новай скрынкі я як дзяўчынка сумленная ў графе "gender" заўсёды стаўлю птушку ля літары F)! Пра што я? Вядома, пра спам. Стоп! Толькі без гістэрык.***




тэкст: Алена Рагель



### з чым яго ядуць

Спачатку спам сапраўды елі, бо слова ўзьнікла ад выразу SPiced hAM, у перакладзе - "мяса зь перчыкам". Прыдумала і зарэзэрвавала гэтую трэйдмарку амэрыканская карпарацыя Hormel, калі ў 37-м мінулага стагодзьдзя распачала маркетынгавую кампанію па збыце заляжалай сапсаванай тушонкі. Рэкляма правалілася, але ў пачатку Другой Сусьветнай фірма заключыла выгадны кантракт з ваенным міністэрствам. Спам стаў звыклай стравай для амэрыканскіх матросаў, потым - асноўным элементам рацыёну для многіх англічанаў, да якіх ён трапляў па лэндлізе, а пасьля вайны - у рамках пляну Маршала. "Ружовыя кавалачкі мяса", апісаныя Оруэлам у "1984", - гэта спам узору 1948 году.

Есьці гэта было немагчыма. Але есьці надта ўжо хацелася. Таму народ ванітаваў і хаваў. Штосьці падобнае адбываецца і сёньня.

### у сучасным выглядзе

Сёньняшні спам, ён жа junk mail, ён жа паштовае сьмецьце, зьявіўся ў 1994-м у USnet. Электронныя дошкі, раней запоўненыя навуковымі дыскусіямі, аднойчы ўпрыгожыліся сотняй паведамленьняў пад аднолькавым загалоўкам "MAKE MONEY FAST". Аднатыпныя тэксты распавядалі пра незайздросны лёс нейкага Дэвіда Родса, які страціў дом, тачку, жонку і нешта там яшчэ ў выніку банкруцтва. На шчасьце, па пошце ён атрымаў гэткі самы ліст і, разаслаўшы яго сябрам, зрабіўся мільянэрам. Цяпер Родс жыве ў трохпавярховым доме з басэйнам і паркам новых аўто, а калі ў яго заканчваюцца грошы, ён ізноў рассылае свае лісты і атрымлівае законныя $100.000. Маўляў, ты таксама можаш зрабіцца Родсам, варта толькі пералічыць па $1 кожнаму зь дзесяці прыкладзеных адрасатаў, прыбраць першае прозьвішча ў сьпісе, дадаць сваё ў канец, разаслаць знаёмым па электроннай пошце ці вывесіць у тэлеканфэрэнцыі.



Ёсьць у гэтай гісторыі нешта да болю знаёмае. Насамрэч, тэхналёгія спаму простая, як усё геніяльнае. Груда камэрцыйных паведамленьняў рассылаецца па сетцы гэтак жа, як раней "Лісты шчасьця" па звычайнай пошце. Атрымаў сам - перашлі бліжняму свайму. Розьніца ў тым, што спамэрскае шчасьце нярэдка вымяраецца пэўнай сумай зялёных грашовых адзінак.

У красавіку гэтага году ўпершыню за гісторыю інтэрнэту колькасьць спаму стала большай за колькасьць звычайных электронных лістоў. І калі раней са спамам у сеціве змагаліся хіба што тэрарысты-энтузіясты (самы вядомы зь іх - Cancelmoose, Лось-разбуральнік), то цяпер, напрыклад, Эўразьвяз пляную ўвесьці афіцыйную забарону на рассылку масавых паведамленьняў. А пакуль правайдэры хапаюцца за галовы і стогнуць ад перагружанасьці на холы. 40% сусьветнага мэйл-трафіку забясьпечваецца спамам.

Калі казаць пра асноўную функцыю спаму, дык гэта, вядома, маркетынг. Часьцей за ўсё па электроннай пошце прапаноўваюць дробныя тавары, розьнага віду сэкс-паслугі і праграмы для прадукаваньня таго ж самага спаму. Апошнія, дарэчы, карыстаюцца немалым попытам, бо спам - тыповае дзіцё капіталізму. Хочаш разбагацець - кідані каго-небудзь.

**У красавіку 2003 г. упершыню ў гісторыі інтэрнэту колькасьць спаму стала большай за колькасьць звычайных электронных лістоў. З кастрычніка Эўразьвяз пляную ўвесьці забарону на рассылку масавых паведамленьняў.**

Заканамернае пытаньне: адкуль гэтым нахабнікам вядомы твой электронны адрас? Папершае, дастаць інфармацыю такога тыпу не праблема. За 30-50 даляраў можна лёгка купіць базу зьвестак з мноствам адрасоў. Па-другое, як казаў мне знаёмы кампутаршчык, за тыдзень можна самому без напружаньня напісаць нескладаную праграмку па зборы такога кшталту інфармацыі. Менавіта так зарабляюць на хлеб многія абдзеленыя рынкам беларускія праграмэры.

### сваё ня пахне

Калі ўжо казаць пра спам беларускі, можна з палёгкай прызнаць, што рухаемся мы ў гэтым кірунку даволі марудна. Асаблівасьць тутэйшых спамэраў - яны не імкнуцца зарабіць на нелегальнай рэкляме. Ня думаю, што гэта пагарда да халявы. Проста, у адрозьненьне ад Эўропы, мясцовыя юзэры складаюць толькі 4% ад усяго насельніцтва. Таму атрымаць грошы са спаму даволі складана.Тым больш што, паводле статыстыкі, спам як рэкляма неэфэктыўны: больш за 80% такіх лістоў мы зьнішчаем, нават не чытаўшы. Асабіста я знаёмая толькі са стваральнікамі так званага ідэалягічнага спаму. Гады два таму ў бай-нэце былі папулярныя лісты супраць аб'яднаньня Беларусі і Расеі. А ў гэтым сэзоне гітом №1 у BYnet былі абвесткі супраць вайны зь Іракам. Цікава, хто такім чынам ствараў базу электронных адрасоў і што ён цяпер будзе зь ёй рабіць?

Камэрцыйныя ж аб'явы рассылаць тут пакуль бессэнсоўна: масавы віславухі юзэр у сетку пакуль не прыйшоў. Хаця апошнім часам на маю скрыню рэгулярна валяцца прапановы скарыстацца паслугамі адной менскай электроннай кнігарні. Адназначна, у нашага спаму яшчэ ўсё наперадзе.

### спам: "за" і "супраць"

Далёка ня ўсе нэгатыўна ставяцца да спаму. Ёсьць людзі, якія нават вельмі і вельмі "за". Па-першае, гэта самі спамэры. Па-другое, тыя фірмы, што карыстаюцца іх працай. Па-трэцяе, усе астатнія, хто атрымлівае з гэтага хоць якую выгаду. Так, тэлефонныя абанэнты галяндзкай KPN-Mobile стараюцца своечасова аплачваць усе рахункі. У іншым выпадку праз кожныя 20 сэкундаў спэцыяльная праграма нагадвае ім пра грамадзянскі абавязак. Такім чынам тэлефон фактычна блякуецца. Што называецца, "Белтэлекаму" да ўвагі.

Нармальныя ж людзі, якім спам замінае жыць, працаваць і спраўляць іншыя натуральныя патрэбы, на сайце tortugame.email-sherpa.com могуць знайсьці гульню для спаманенавісьнікаў. Там можна абліваць спамэраў гарачым алеем, тапіць іх і рабіць розныя іншыя глупствы. Гэткае лякальнае сьвята на вуліцы пакрыўджаных.

А ўвогуле, спам - гэта форма існаваньня і стыль жыцьця сучаснай цывілізацыі. Чаму мы самі ствараем рэчы, якія потым ня можам кантраляваць? Разгадка дзесьці на паверхні, але мы ўпарта адмаўляемся яе бачыць. І таму кожную раніцу, адкрываючы свае "мылы", чалавецтва ва ўнісон паўтарае запраграмаванае: "Блін, навалілі!" Чамусьці ў такія хвіліны мне прыгадваецца агент Сьміт зь першай "Матрыцы". Праўду казаў чувак храбраму падпольшчыку Морфіюсу...

# ТЭЛЕ-БАЧ-АНЬ-НЕЕЕЕЕ!

тэкст: Андрэй Гнёт

**Рытарычнае пытаньне "што агульнага паміж trash-культурай і тэлебачаньнем Беларусі" выклікае такі ж рытарычны адказ - "і тое, і другое - мастацтва наўмыснай вычварнасьці".**

Trash як такі вельмі бясьпечны ў малых дозах, тым больш калі гэтая зьява - ня ваш лайф-стайл. Ператварыць груду сьмецьця ў элемэнт усеагульнага ўхваленьня, а часам і захапленьня - вялікая справа. Іншая рэч, каліператвараць вычварнасьць бяруцца, выбачайце, вычварэнцы, якія думаюць, што зьменяць такім чынам яшчэ і адносіны да сябе. Насамрэч яблыню яблыкамі не пераробіш, у сэнсе, які ты сам, такія і твае дзеяньні. Ці вось яшчэ - пра люстра і адбітак у ім... Усе гэтыя лягічныя фундамэнты толькі для таго, каб ты, мой удумлівы чытач, разумеў, адкуль рогі растуць. Ці, скажам, рукі. А можа быць і галава. Каб атрымаць задавальненьне ад прыгожага, зусім ня варта штохвіліны акаляць сябе ГЭТЫМ. Проста дадай г***! І гэта жорсткая праўда, інакш чаму нават такія заядлыя эстэты з разуменьнем ставяцца да trash-культуры? Гэта як хрэн на кончыку нажа - дазваляе адчуць сапраўдны смак доктарскай каўбасы. Толькі б не перабраць меру.
Беларускі TV-прадукт - скрозь і ўсюды trash. З адным толькі істотным адрозьненьнем: тыя, хто яго стварае, наўрад ці здагадваюцца, якімі катэгорыямі жыцьцядзейнасьці іх творы мусяць апісвацца. Што да сьвядомых трэшэраў, дык тыя свае дзеяньні хоць неяк матывуюць. І нічога тут не паробіш. Наш TV-прадакшн да мозгу касьцей эксперымэнтальны.

## КАЛІ САДЖАЦЬ ПАМІДОРЫ...

...распавядзе першы нацыянальны сыноптык "Тэлебаромэтар". Праграма - су-у-у-упэр! Рэкамэндуецца глядзець з асаблівай асалодай. Безумоўны посьпех праекту - харызма тэлевядучай. Асабіста мяне адчайна гвалціць настальгія па дзіцячым садку і выхавацельцы, якая зачытвала казку перад ціхай гадзінай. Калі вас адарыла прырода і вы цудам здолелі адшукаць гэты факт на схіле гадоў - тэрмінова дзейнічайце. Пошта "Тэлебаромэтра" працуе соднямі. Перавага аддаецца літаратурна-бытавому жанру, але не эпісталярнаму. Зрэшты, калі думка ня йдзе, можна распавесьці пра свайго коціка ці сабачку. І ўсё гэта пасьля зачытаюць у этэры!!!
Апрача чаруючага прагнозу надвор'я па краіне на наступны тыдзень - маса ўсяго пазнавальнага. У праграме:

***- астрапрагноз***
***- дакладныя даты сатанінскіх дзён***
***- кароткі гістарычны экскурс (заўсёды новая тэма!)***
***- калі што саджаць***
***- надвор'е сто год таму***
***- эксклюзіўна пра надвор'е за мяжой***
***- нештачкі яшчэ***

Асаблівая рэкамэндацыя - прагляд на лецішчы для лепшага засваеньня.
Аб'ектыўна, лепшая праграма для старэйшага пакаленьня. Зрэшты, я сам стараюся не прапускаць ніводнага выпуску (кажуць, пасярод тыдня ёсьць нават паўтор!). Добрая інфармацыя і вядучая-казачніца. А што яшчэ трэба ў нядзелю ўвечары перад сном?

## ЯК ПРАВІЛЬНА ЗАБІВАЦЬ...

...ужо дакладна ведае вядучая народна-футбольнага праекту АНТ "Не только о футболе" Яўгенія Паўліна. І ведае яна, гледзячы па традыцыйным выразе твару і назве праграмы, ня толькі гэта. Ды вось расказаць ня хоча. А шкада...
Непераборлівы глядач патрабуе іншага. Яму б пахварэць, напрыклад, за "Чырвоны жлобінец", а што яшчэ ў жыцьці патрэбна?
Аматары "паганяць" праграмай будуць цалкам задаволеныя. Хочаш - атрымлівай асалоду ад буйных плянаў варотаў, хочаш - лічы ромбікі на мячы, а на крайняк на мужыкоў у майтках і буцах можна паглядзець... Але хіба што стаўка рабілася на жаноцкі вобраз вядучай, якая да таго ж - гордасьць беларускай мастацкай гімнастыкі.
Паўгадзінны "саюз мяча і арала" не пакіне абыякавым ніводнага з тых, хто рызыкнуў паспрабаваць, а ўпэўненая графіка ў бардова-чорных колерах падкрэсьліць, што футбол - справа сапраўдных мужчынаў.

## МЕНСК - ГЭТА ХТО?

Папулярнай песьняй афармляюцца мастацкія замалёўкі тэлеканалу СТБ "Минск и минчане". Як там сьпявалася: "...пройдусь по экскаваторной, сверну на свинобойную..." Але гэта там, на зары туманнага юнацтва. Зараз за вас і зьвернуць, і пройдуцца, і нават болей. Вам застаецца толькі сядзець на канапе і назіраць, як і чым жыве родны горад.
Маляўнічая рэчка Сьвіслач... Уключыўшы фантазію, уяўляеш, якой яна будзе прыгожай, пасьля таго як акрамя бутэлек і аўтапакрышак тут зьявіцца яшчэ і вада.
А парк Горкага? Хочацца ўсё кінуць і абавязкова пайсьці туды, насустрач вабным забавам. Там, дзе поні, "колесо обозрения", "на теплоходе музыка играет", там, дзе пах грузінаў і шашлыкоў. Суцэльная рамантыка, не выходзячы з дому.
Відавочна, аўтары падобных замалёвак у мінулым жыцьці былі паэтамі. У гэтым жа зьведваюць асновы нялёгкага рэжысэрскага майстэрства... Займальная рэч, вельмі рэкамэндую!

Астатнія пазыцыі айчыннага TV TRASH TOP выглядаюць ня менш хвалююча. Тут табе поўны спэктар жанраў і накірункаў, якія задавальняюць нават самыя вычварныя густы.
Замест айчыннага канцэрту "Фабрики звезд" беларускаму пінгвіну прапануецца адчуць сябе super-star разам з "ХИТ-моментом" і абавязкова на "Скрыжаваньнях Эўропы". Тут жа спонсары зь ліку брэндаў ёсьць - гармалзаводы, бюджэтныя начныя клюбы і замяняльнікі сокаў. Міне колькі год, і будзе прасунутая моладзь каўбасіцца на рэспэктабэльнай дыскатэцы "Хит-момент", а саплівыя школьнікі натоўпамі будуць ускладаць кветкі да бюста Элачкі Язэрскай. Няхай жыве TRASH!!!

# trash-meals




1.




2.



7.



8.









10.



3.



4.



9.



11.

5.

6.



13.



12.



trash-meals

1 - Бездакорны мавэтон. Пры ўсёй дасканаласьці - не чапляе. Адзіная дэталь, якая надае шарму: у яшчара язык млекакормячага. 2 - "Мой тата - нуварыш" (цацка для выхадцаў з матэрыяльна забясьпечаных сем'яў). 3 - I'am pretty? 4 - Чарапашкі-ніндзя адпачываюць. У гэтым сэзоне мілітары саступіў месца мяккаму міралюбству. 5 - "Юрскі парк" у тваёй кішэні. А яшчэ яно поўзае. 6 - Калі цябе ўзялі ў "Карпарацыю монстраў", мусіш мець карпаратыўны выгляд. 7 - Прылада для аўтатрэнінгу перад рамантычным спатканьнем (для хлопчыкаў). 8 - Гномы добра падыходзяць для мадэляваньня сямейных канфліктаў. 9 - Yeah. You are so sexy! 10 - Вышэйшы пілятаж: інкарнацыя ўсіх эмоцыяў адразу. 11 - Цяпер разумееш, за што Greenpeace ня любіць McDon? 12 - Усходняя экзотыка на шарнірах - якраз там, дзе трэба. 13 - Гібрыд астранаўта і штурмавой шлюпкі марской пяхоты. Лёгкі налёт стылю "wild".



# LADIES AND GENTLEMEN, WELCOME TO VIOLENCE!

■ Аліса Ўондэр



**ГВАЛТ У КІНО. ПРЫНАМСІ, МЫ ЎСЕ ВЕДАЕМ, ШТО ГЭТА ТАКОЕ. РАЗАМ З ТЫМ ПЫТАНЬНЕ "ЧАМУ?" ПАЎСТАЕ НЯ Ў КОЖНАГА. ГВАЛТ ДЛЯ ЧАЛАВЕКА - СРОДАК АБАРОНЫ, ДАМІНАВАНЬНЯ І СЬЦЬВЕРДЖАНЬНЯ ЎЛАСНАЙ МОЦЫ. КІНЭМАТОГРАФ ГРАЕ НА ГЭТЫХ ЯКАСЬЦЯХ ЯК НА АРФАВЫХ СТРУНАХ, ПА-КАМЭРЦЫЙНАМУ БРУТАЛЬНА ЮЗАЮЧЫ НАШУЮ ПАДСЬВЯДОМАСЬЦЬ.**

У той ці іншай форме гвалт у кіно прысутнічае зь першых дзесяцігодзьдзяў яго існаваньня. Зрэшты, прыгадай доктара Франкенштэйна і Насфэрату, і ты пагодзісься, што ў тыя часы гвалт наўрад ці быў нечым большым за кардонныя дэкарацыі. А ў адрозьненьне ад эстэтычнага нейкі асабліва вычварэнскі кайф ад прагляду такога кіно сёньня атрымаць складана.
Але ГВАЛТ, КРОЎ ды ЗАБОЙСТВА пайшлі сваім шляхам, і ў пэўны час - сярэдзіна 50-х - высьветлілася, што варта "падаваць на развод" - далей кіно "не для ўсіх" пойдзе асобна ад мэйнстрыму. Ханжаская цэнзура і татальная бюракратызацыя павыганялі кінаэкстрэмалаў зь вялікіх студыяў, вынікам чаго стаў шалёны рост "мастацтва" кіна-супраціву.

**анты-кіно: гвалт&сэкс&гопнікі**

Можа хто памятае старыя моладзевыя камэдыі з абавязковым паходам у drive-in (пад адкрытым небам) кінатэатар? Менавіта той экран і тыя заклапочаныя падлеткі былі першымі сьведкамі экспансіі новага, маргінальнага кіно. Як водзіцца, само грамадзтва спрыяла зьяўленьню руху контр-. Шматлікім спробам зьнішчыць натуральнае ў афіцыйнай амэрыканскай культуры процістаялі журавінавая кроў, аголеныя прыгажуні ды іржавая сякера маньяка-забойцы ў малабюджэтных, экспэрымэнтальных "шэдэўрах" анты-кіно. Абсалютнае самавольства нічым - акрамя і без таго малога бюджэту - не абмежаванай фантазіі спрыяла стварэньню неардынарных і сюрэалістычных фільмаў. "Плян 9 з адкрытага космасу" (1956) Эдварда Д.Вуда малодшага і "Faster, Pussycat! Kill! Kill!" (1965) Руса Мэйера па моцы ўплыву на несфармаваны сьветапогляд гледачоў-ахвяраў ды па ступені нэрвовага напружаньня ў некалькі разоў пераўзышлі chewing gum галівудзкага ды эўрапейскага мэйнстрыму таго часу.
Кінастыль, які склаўся, зусім ня быў разьлічаны на эстэтычнае ці, крый божа, інтэлектуальнае задавальненьне. У выніку тысячагодзьдзяў разьвіцьця культуры чалавек так і застаўся ДРАПЕЖНІКАМ, сквапным на смак крыві, сэксуальную палігамію ды адрэналін ад назіраньня такіх відовішчаў. Адрэналін - наркотык, чым больш - тым лепш, але ёсьць мяжа, за якой пачынаецца перадоз.
Менавіта на ОВЭРДОЗ АСАЛОДЫ ад прагляду сцэнаў з забойствамі і rape разьлічвалі піянэры кіна-супраціву Вуд малодшы і Мэйер. Для іх абодвух незалежнасьць была не прынцыповым выбарам, але шчасьлівым выпадкам: Эдварду Вуду адмовіў у бабках кансэрватыўны Галівуд, а Руса Мэйера не ўзялі апэратарам на XX Cent. Fox. Адлучэньне ад галівудзкай кармушкі штурхнула рэжысэраў у бок лёгкіх грошай, якія можна было ўзяць голымі рукамі - трэба было толькі прапанаваць гледачу тое, чаго яму не хапала ў рафінаваным кінэматографе таго часу. Тыповая мэйераўская вобразнасьць: у якім-небудзь Smalltown, USA жывуць лесбы-німфаманкі, слабавольныя качкі-дэбілы, юрлівыя інваліды-вычварэнцы, рэлігійныя маньякі-эвангелісты, лузэры-студэнты і Містэр Гвалт.

**give me absolute control over every living soul...**

Нягледзячы на тое, што фільмы такіх мэйераў&Co і так прыносілі неблагі даход, маскульт паставіў гвалт на канвэер, спадзеючыся выціснуць зь яго ўсё магчымае і не-. На падыходзе была новая хваля фільмаў жахаў - брутальнасьці дадавалі бадай што да кожнага папсовага фільму. Як унівэрсальная прыправа Vegetta да нясмачнай ежы, гвалт ад пачатку ўпрыгожваў сэрыялы бандыяны і стужкі пра Фантамаса. Але ў хуткім часе "прыправа" выціснула сабой "страву".
З аднаго боку - мода на азіяцкія баевікі і гук мокрага рушніка пры аплявусе, а зь іншага - вайна ў Віетнаме адчынілі дзьверы масавага кіно ў violence. Горы трупаў пасьля Рэмба, чарговая па-зьверску забітая прыгажуня Бонда і тысячы безыменных статыстаў, што трапілі пад гарачую руку - вось твар кіно 70-80-х. У кіна-гумкі зьявіўся саланаваты прысмак крыві і пораху.
90-я сталі вяршыняй садамазахізму ў мас-кінэматографе. Проста забіць героя стрэлам у лоб было элемэнтарнай непавагай да гледача. Дагэтуль памятаю тыповы

**"БАЧЫЦЬ ПАКУТЫ - ПРЫЕМНА, КАТАВАЦЬ САМОМУ - ЯШЧЭ БОЛЬШ ПРЫЕМНА: ВОСЬ СУРОВАЕ ПРАВІЛА, ПРАВІЛА СТАРОЕ, УСЕМАГУТНАЕ, ЧАЛАВЕЧАЕ-ЗАНАДТА-ЧАЛАВЕЧАЕ..."**

**Ф.НІЦШЭ**



FRANKENSTEIN meets THE WOLF MAN

AT! KILL! KILL! FASTER, PUSSYCAT! KILL! KILL! FASTER, PUSSYC
RUSS MEYER Associates Present
Faster, PUSSYCAT! KILL! KILL!
...n't Race the fastest ...SSYCATS — they'll ...at you — to DEATH!
STARRI... TURA ...ATANA • HAJI • Lori WILLIAMS
Stuart LANCASTER
Directed by RUSS MEYER • Screenplay by JACK MORAN • An EVE Productio...
YCAT! KILL! KILL! FASTER, PUSSYCAT! KILL! KILL! FASTER, PUS

"Faster, Pussycat! Kill! Kill!"




БОЙКА ПРАЦЯГВАЕЦЦА ДА ТАГО ЧАСУ, ПАКУЛЬ ПРАЦІЎНІК НЯ СТРАЦІЦЬ ПРЫТОМНАСЬЦЬ АЛЬБО НЕ ПРАХРЫПІЦЬ: "ХОПІЦЬ!"
"FIGHT CLUB"

для Галівуду кадар, у якім напарніку Стывэна Сігала ўскіпяцілі-такі вочы нейкай лязэрнай прыладай. Пры гэтым мой дзесяцігадовы брат салодка прыжмурыў свае.
Зразумела, такі рэалістычны жанр, як баявік, пайшоў па шляху вычварэнства, і туды ж проста не маглі не патрапіць жанры з больш шырокімі межамі ўяўленьня: жахі й фантастыка. Калі майстэрства Хічкока будавалася на ўдалым мантажы і геніяльнай працы з чалавечай псыхікай, дык тут пайшла зусім іншая п'янка. Забраўшыся ў глыбіні чалавечай падсьвядомасьці, псыхолягі знайшлі там столькі АГРЭСІІ й жахлівых фантазіяў, што скарыстацца з гэтага ня здолеў хіба лянівы. "Паўсталыя зь пекла" - што гэта, як не публічная дэманстрацыя нашага страху і жаданьня гвалту? І не кажы, што цябе не ўзбуджаюць цьвікі, увагнаныя ў галаву галоўнага "паўсталага"! У такім разе ты сам рызыкуеш быць кваліфікаваным як вычварэнец...
Агрэсія ды гвалт пакарылі свой кіношны Эвэрэст. Крыві стала так шмат, што ад яе смаку ўсе пачалі ванітаваць. Праглядаючы які ўжо раз "Паўсталых...-3", я нечакана ўбачыла адлюстраваньне ўласнага твару на экране. І вось тут мне ўпершыню за ўвесь сэанс стала НАСАМРЭЧ страшна.

**бойка працягваецца да таго часу, пакуль праціўнік ня страціць прытомнасьць альбо не прахрыпіць: "хопіць!"**

Так ужо павялося, што на любую сілу знойдзецца процісіла. Калі ў 50-60-х гэта быў брутальны трэш versus - цынізм афіцыйнай культуры, то ў 90-я шмат хто з "прасунутых" інтэлектуалаў імкнуўся супрацьпаставіць жывёльнай агрэсіі халодную сілу рэфлексіі ды аналізу. Першым у доўгім сьпісе "кіно супраць гвалту" быў "Мэханічны апэльсын" - экранізацыя скандальнага раману Энтані Бёрджэса, якую зь неверагодным посьпехам зьдзейсьніў Стэнлі Кубрык. Гэта першы цынічны, жорсткі і халодны погляд на ўсё яшчэ жывёльную прыроду чалавека. Пасьля прагляду "Апэльсына" ты сам сабе нагадваеш галоўнага героя, якому зрабілі апэрацыю па выдаленьні агрэсіўных эмоцыяў: у цябе гэтак жа сама пачынаюць дрыжэць рукі і ліцца сьлёзы пры ўспаміне аб зьбітай учора котцы на шашы Берасьце-Масква.
Зразумела, адным маральна-этычным фільмам справа ня скончылася. Адэпт дурнога густу Квэнтын Тарантына (Руса Мэйера, між іншым, лічыць сваім настаўнікам) разам з Олівэрам Стоўнам здымае іранічную пародыю на ўвесь існуючы гвалт-мэйнстрым. Фільм "Прыроджаныя забойцы" (Natural Born Killers) меў рэзанацыю выбуху - масавай культуры зь яе культам violence зноў нечакана падставілі люстэрка. Глядзець "Кілераў" брыдка, невыносна, але ўжо па-мазахісцку прыемна...
Чым далей ад слаўных 50-х, тым страшнейшы і цямнейшы "лес". Коміксавая "Каралеўская бітва" зноў абурыла сьвет: "Колькі можна ўжо тыцкаць пысай ва ўласнае дз*мо???" На працягу дзьвюх гадзінаў нам ва ўсіх падрабязнасьцях дэманструюць 42 (!) сьмерці. Гэта ў некалькі дзясяткаў разоў менш, чым у сярэднім баевіку, але акцэнт зроблены на кожным забойстве. Таму робіцца млосна ўжо на дзясятым. Правёўшы нас праз сорак два колы пекла, фільм зьехаў да банальшчыны ў стылі гіпі: "Кахайце адно аднаго - і застанецеся людзьмі!"
Але маралізатарства пайшло значна глыбей за сьцьверджаньне агульных ісьцінаў ("любіцеся, брація і сестры"). Пачвара вылезла з нашай падсьвядомасьці, і лягічна было б туды ж яе і загнаць. Вынік гэтай псыхатэрапэўтычнай працэдуры - нямецкі "Экспэрымэнт" (2001). Заснаваны на РЭАЛЬНЫХ падзеях Стэнфардзкага ўнівэрсытэту, фільм атрымаўся значна больш трэшавым. Сутнасьць экспэрымэнту: дваццаць удзельнікаў падзяляюць на дзьве групы - вязьні і наглядчыкі. Што здарыцца з табой, калі ты адчуеш у сваіх руках НЕАБМЕЖАВАНУЮ ўладу, здагадацца няцяжка.

Гвалт, rape, violence - адзін з асноўных інструмэнтаў кіраваньня нашым успрыняцьцем. Чалавеку хочацца лічыць сябе свабодным драпежнікам, і кінэматограф, марыянэтачных справаў майстар, торгае за ніткі, то выпускаючы зьвера на волю, то зноў заганяючы яго ў клетку. Пуга як рухавік мастацтва спрацоўвае і дагэтуль...

GIVE ME ABSOLUTE CONTROL OVER EVERY LIVING SOUL...
"NATURAL BORN KILLERS"



*аўтар выражае падзяку сп. Жбанкову за маральную і прафэсійную падтрымку*



# ПРЭПОДЫ



Няма нічога больш цікавага за разьвянчаньне мітаў, асабліва калі яны тычацца людзей, пра якіх a priori нельга думаць кепска. Аб'ект дадзенага разгляду - выкладчыкі, дакладней, ня проста выкладчыкі, а тыя зь іх, якія дабіваюць ці сваім нахабным і зьняважлівым стаўленьнем да студэнтаў і калегаў, ці сваёй тупасьцю і саўдэпаўскай кансэрватыўнасьцю, ці сваім адкрыта пагардлівым стаўленьнем да ўласнай прафэсіі. Яны, як і такія ж "прафэсіяналы"-выродкі зь іншых галінаў чалавечай дзейнасьці, спакойна існуюць у гэтым сьвеце і пры магчымасьці не забываюць паплакацца на гаротны лёс "рабоў навукі". І адкуль яны толькі зьяўляюцца?

Алёша Сярых

## выкладчыкі

ціпа ціпа ціпа ціпа ціпа ціпа ціпа ціпа ціпа ціпа ціпа

## ЦІПА ІНТЭЛЕКТУАЛЫ

Штогод у аддзелы асьпірантуры вышэйшых навучальных установаў Беларусі паступаюць каля 6000 чалавек. Невядома, колькі зь іх заканчвае і застаецца працаваць. Вядома, што ня так шмат, як хацелася б дзяржаве. Зразумела, што яна сама "стараецца" як можа, каб усе нармальныя людзі актыўна сыходзілі з храмаў навукі. Сьмешныя заробкі, куча непатрэбных папераў, пастаянныя "вывалачкі" ў начальства. У выніку: ня ведаю як у вас, а падчас майго студэнцкага юнацтва, якое пасьпяхова заканчваецца, наш унівэр нагадваў дом састарэлых, дзе перад- ці пэнсійнага веку выкладчыкі чыталі для сваіх вучняў па такіх жа старых і зжаўцелых талмудах навуку ўчорашніх дзён. Маладыя калі і прыходзілі, то затрымліваліся на год-два.

Праблемы ў галіне адукацыі часта зьвязваюць зь яе недасканаласьцю, грузам савецкай сыстэмы, а таксама з самімі навучэнцамі - маўляў, лянівыя яны, пасіўныя і безадказныя ў дадатак. Але што калі яны - вынік працы гэтай сыстэмы? І чаму ў такім выпадку пра пасярэднікаў у дадзенай сытуацыі мала хто згадвае? Выкладчыкі, што перадаюць студэнтам свае веды, граюць вызначальную ролю.

Той факт, што выкладчык часта не зьяўляецца прафэсіяналам сваёй справы, амаль заўсёды не кладзецца ў касу - "ну, як, нечаму ж вучыць..."

Каб зразумець, якімі могуць стаць выкладчыкі, варта наведаць пэдунівэрсытэт. Выпадковыя людзі туды выпадкова і трапляюць (каб не ісьці ў войска, каб не працаваць, каб зь вёскі зьбегчы ў горад Менск, каб хоць куды-небудзь паступіць). Усё гэта празь пяць год заканчваецца. І дзякуй богу, калі напрыканцы пятага курсу студэнт нарэшце зразумеў, што ён тут рабіў. А калі не? Калі ўсе пяць год - гэта ўцёкі ад самастойнага, дарослага, адказнага жыцьця? О, тады можна і ў асьпірантурку схадзіць (там якраз месцы ёсьць, а прэтэндэнтаў - кот наплакаў!). Такім чынам асьпірантура - яшчэ тры гады да "даросласьці".

Вось тут і ўключаецца мэханізм зацягваньня: за тры гады асьпірант "прасякае" сыстэму, бачыць, што веды - неабавязковая ўмова прафэсіяналізацыі. І ўсё, нахабнасьць і пафігізм да прафэсіі пад паху - і наперад, да дурных студэнцікаў.

Яшчэ раз паўтаруся: зразумела, што ня кожны малады і стары выкладчык так прыходзіў у вышэйшую адукацыю. Але "самыя-самыя" - менавіта яны, выпадковыя, а таму недалёкія, якія пры нагодзе зьвядуць цябе на іспыце за тры пропускі, на сэмінарах ня здолеюць падтрымаць з табой дыскусію і толькі будуць паўтараць сакрамэнтальнае: "Я - выкладчык, ты - дурны".

Магчыма, рэформу адукацыі трэба пачынаць з адукаванасьці выкладчыкаў? Гэта дакладна дасьць больш плёну, чым увядзеньне абавязковага наведваньня і спагнаньне за пропускі. З уласнага досьведу: са спэцкурсу "Гісторыя філязофскай думкі ў Беларусі" я толькі і даведаўся, што "зарадзіла" яе Эўфрасіньня Полацкая і што выкладчыца фарбуе валасы марганцоўкай (таму яны такога "натуральнага" фіялетавага колеру).

Васіль Г. (Акадэмія фізвыхаваньня) скардзіцца: "Уяўляеш, я паступіў сам, без дапамогі бацькоў і рэпэтытараў! Чакаў першага верасьня як сьвята. Убачыў расклад і падумаў: "Як цікава тут, мабыць, вучыцца!" Малады быў, дурны... Зараз не хаджу на лекцыі, на сэмінарскія - лепей сваімі справамі займацца, чым слухаць тую лухту, што вярзуць выкладчыкі".

Такія скаргі распаўсюджаныя сярод многіх першакурсьнікаў. Унівэр асацыюецца з самастойнасьцю, навуковасьцю і свабодай, а аказваецца працягам школы з запісам пад дыктоўку, толькі бязь дзёньнікаў, з адзначэньнем у журнале наведваньняў і інш.

Міхал Т. (БДУК): "У нас нейкая кабета чытае міталёгію. Ёлы, я схадзіў туды першы раз, другі - ды мне пра ўсё гэта было вядома ў дзявятай клясе. І што мне ў яе рабіць на лекцыях? І, дарэчы, цікава, як гэты курс дапаможа мне ў будучыні атрымаць працу?"

А што ж вы, спадар Т., хацелі ад беднай Мар'і Пятроўны, якая ні сном ні духам пра попэраў і шпілеўскіх, міты чытала, калі была вашай равесьніцай (кніжка такая была, "Міты народаў сьвету", адаптаваная для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту), а так яна ўсё жыцьцё сацрэалізм у нейкага мастака вывучала? А на катэдры спн. Мар'і загадалі чытаць дадзены курс. Што яна і робіць. Як умее, выбачайце.

Дарэчы, а чаму маладыя, абсалютна нармальныя выкладчыкі сыходзяць з унівэраў праз год-два?

"Таму што ці асьпірантуру заканчваюць, ці кантракт не працягваюць, як атрымаюць на рукі дакумэнты аб прысваеньні званьня "кандыдат навук", - тлумачыць малады выкладчык Пётар Васільевіч з БДМУ. - Застаюцца самыя апантаныя, якія, прынамсі, хочуць "давесьці" любімых студэнтаў да пятага курсу і хоць нешта ім даць. Такіх мала, і пасьля 27 яны сыходзяць. А часьцей за ўсё застаюцца тыя маладыя, якія проста нічога іншага ня ўмеюць - толькі мазгі першакурсьніцам лухтой пудрыць і прыкідваца разумнымі. Яны ці сьпіваюцца, ці дурэюць да 35-ці - ад злосьці на сябе, на сьвет, на начальства, на ўласную нішчымніцу - духоўную і матэрыяльную".

## ЦІПА "БЕДНЫЯ ІНТЭЛЕКТУАЛЫ"

Пэдагогіка для большасьці пэдагогаў - толькі праца, спосаб зарабіць грошы, часам зусім нядрэнныя. І вось былы студэнт з дапамогай бацькоў заканчвае ўнівэр, а "валасатая рука" ці ўласнае нахабства цягнуць у асьпірантуру, а лепей за ўсё - па разьмеркаваньні на катэдру. І зусім не для таго, каб займацца навукова-дасьледчай працай. Гэта яшчэ адзін са спосабаў не пайсьці ў войска, застацца ў Менску, атрымаць самую "няпыльную" працу ва ўнівэры. Ды і, ёлкі-палкі, прыемна адчуваць сябе цаглінкай у сьцяне беларускай навукі, якая можа ў патрэбны момант зваліцца на галаву студэнту-небараку!!!

Так прыходзіць час, калі пара выходзіць на пэдагагічную сьцежку і займацца выкладчыцкай працай. Чаго рабіць насамрэч ня хочацца. Такія вось самадуры лічаць, што "паймець" студэнта на заліку, выставіць яго дурыкам на іспыце дастаткова, каб мець рэпутацыю ну такога дасьведчанага, якому здаць проста немагчыма. Такім чынам і ўзьнікаюць хабарніцтва і выкладчыцкая прастытуцыя.

Што да першага, то студэнт хутка скеміць, што трэба нешта несьці, і з прэподам праблемаў будзе менш. Студэнцка-выкладчыцкае хабарніцтва ператварылася ў сапраўднае мастацтва, якому варта было б павучыцца не аднаму герою дэтэктыўных раманаў. Што да выкладчыцкай прастытуцыі, то гэта проста кепскі варыянт рэпэтытарства, калі абітурыента рыхтуюць не па пэўнай дысцыпліне, а для здачы менавіта Пятру Сямёнавічу. Акадэмічная гадзіна зь сябрам Пятра Сямёнавіча (а калі пашанцуе, то і з ім самім) каштуе ад 15 да 40 даляраў. Вынік, канечне, станоўчы: дзіця паступае. Тое самае апошнім часам адбываецца і ў школах: "Вашая дачка дрэнна валодае замежнай мовай, але калі я зь ёй пазаймаюся асобна за...(1,5 - 3 у.а.), то яна атрымае добрую адзнаку за чвэрць". Банальная да жаху сытуацыя: прафэсія становіцца спосабам вымаганьня грошай. І ніякіх разумовых высілкаў не патрабуе. Дыплём аб вышэйшай адукацыі на самой справе стаў толькі "птушкай", неабходнай умовай для ўсіх іншых характарыстык.

І самае простае ў такой сытуацыі - плакацца на тое, што "заробкі малыя" (з боку выкладчыкаў) і пагражаць "змаганьнем з карупцыяй" (з боку дзяржавы). Саўдэпаўскую псыхалёгію трэба мяняць: сапраўдны выкладчык, інтэлектуал-пэдагог мусіць атрымліваць за сваю працу прыстойныя грошы. Невук і хам - ісьці вагоны грузіць. А зусім не студэнтаў!

## ЦІПА "ЧЭСНЫ БЕДНЫ ІНТЭЛЕКТУАЛ"

Яшчэ адзін цікавы момант з жыцьця нашых шаноўных пэдагогаў, прафэсараў, дацэнтаў ці хаця б асыстэнтаў катэдраў.

Існуе меркаваньне, што ў адукацыйных установах людзі атрымліваюць не адукацыю, а толькі падрыхтоўку да яе атрыманьня. Пастаўся да такой справы сур'ёзна, і атрымаеш пэўны плён: уласны досьвед і вынік у выглядзе курсавых, дыплёмных і проста "бягучых" прац. Пакінем у спакоі тых, хто іх купляе, і задамо сабе пытаньне: а дзе, у каго зараз гэты плён?

Кацярына (філфак БДУ) распавядае, як праходзілі заняткі па стылістыцы мовы. Кожны павінен быў назьбіраць пэўную колькасьць стылістычна няправільна ўжытых словаў, а на занятках патлумачыць памылку. Такую мэтодыку выкладчык практыкаваў не адзін год. Праз пэўны час у архіве сваёй навуковай дзейнасьці ён займеў яшчэ адну, досыць грунтоўную працу на аснове "сабранага ім" фактычнага матэрыялу. Сапраўды, навошта парыцца, калі і заняткі пройдуць як трэба, і карысьць ад іх будзе?

Насамрэч выкладчыцкі плягіят - ня дзіва. Пэдагог даўно "ў навуцы", заваліць шараговага студэнта яму як плюнуць, асабліва калі гэта першакурсьнік. Самаацэнка няўстойлівая, давер да выкладчыкаў і імкненьне да вучобы яшчэ ня страчаныя. Вось і прапануюць "паўдзельнічаць у сумеснай працы", "дапамагчы катэдры распрацаваць тэму", "асобна пазаймацца, бо надта здольны". Апошняя матывацыя спрацоўвае часьцей за ўсё. Павал М. (БДТУ) так займаўся да таго часу, пакуль добры лябарант не раскрыў яму вочы: выкладчык, па яго словах, гэтыя досьледы заганяў у адну з замежных лябараторыяў (натуральна, ад свайго імя!!!) і атрымліваў грошы. Студэнту ж як "надта здольнаму" на іспытах паставіў аж чацьверку!

Такія прыклады можна прыводзіць да бясконцасьці: лепшыя дыплёмныя працы зьнікаюць, пераклады, "заплянаваныя катэдрай", прадаюцца, з напрацовак студэнтаў складаюцца кандыдацкія і доктарскія. Вось тут бы ўзгадаць пра аўтарскія правы, калі б ня той факт, што студэнты самі часьцяком скатваюць з тых жа выкладчыцкіх падручнікаў. Чым мы горшыя за прэподаў? Вось яно якое - замкнёнае кола вышэйшай адукацыі!

Выкладчыцкая праца ідзе неяк паўз усяго іншага, чым прэпод займаецца на самой справе. Паводле вынікаў апытаньня, праведзенага сярод студэнтаў, выкладчык у навучальным працэсе - гэта дарадчык і памочнік. Ідэальны выкладчык павінен мець пачуцьцё гумару, быць здольным зразумець студэнта, быць сучасным і "прасунутым" у жыцьці і, натуральна, валодаць сваёй дысцыплінай.

Па вялікім рахунку, кампэтэнтны выкладчык - гэта дасьледчык, той, хто нягледзячы на пэдагагічную дзейнасьць, узрост і рэгаліі працягвае вучыцца разам са студэнтамі. На жаль, такіх у нашых унівэрах няшмат.



Peneloop 2001

Vitale Module 2003

# ШВЭДЗКАЕ ПАВУЦІНЬНЕ НА БЕЛАРУСКІХ ПАНЭЛЬНІКАХ





Vitale Module 2003

Twin Peaks 2002

**Мастак павінен быць кудлатым і неахайна апранутым. Мастак павінен быць "не ад гэтага сьвету". Мастак павінен пісаць карціны пэндзлем на палатне. Ідучы на выставу, заўсёды пракручваеш у галаве гэткія pret-a-porter штампы.**
**30 траўня ў Музэі гісторыі і культуры Беларусі швэд СТЭФАН ЛУНДГРЭН займаўся разбурэньнем стэрэатыпаў. Высокі, стылёва апрануты мужчына, асаблівa ў суправаджэньні сымпатычнай бляндынкі-жонкі, ніяк не стасаваўся з вобразам Мастака-Якім-Ён-Павінен-Быць. А яго працы наўрад ці адпавядалі ўяўленьням пра мастацтва хаця б 10% прысутных. Працоўныя інструмэнты Лундгрэна - як мінімум бэтонныя блёкі, "палатно" - які-небудзь муніцыпальны парк. Інсталяцыя? Пастановачнае фота? Тое, што Лундгрэн прэзэнтаваў з дапамогай праектара і экрана, цяжка аднесьці да пэўнай катэгорыі:**

Я не магу назваць сябе фатографам, хаця ў Менску была арганізаваная мая пэрсанальная фотавыстава. Я таксама і не карыкатурыст, хоць займаюся карыкатурай і мультыплікацыяй. Ня ведаю, хто я. Спачатку марыў стаць спартоўцам, потым - музыкам, і вось у 35 пачаў займацца мастацтвам. Даводзілася шмат працаваць, удзельнічаць у разнастайных мастацкіх праектах і акцыях, але старанньні былі ацэненыя: у 1994 годзе я адправіўся ў Нью-Ёрк вывучаць візуальныя мастацтвы ў мастацкай школе Манхэтэна. Потым вярнуўся ў Швэцыю, арганізаваў майстэрню, запрасіў двух асыстэнтаў. У той час мы займаліся маштабнымі творамі, малюнкам, графікай. У 1996 г. адбыліся мае першыя пэрсанальныя паказы. Тады ўпершыню я і адчуў сябе мастаком.

**Які са сваіх праектаў Вы лічыце самым удалым?**
Мае ўлюбёныя - "Peneloop" і "Vitale Module", іх я якраз меў гонар прэзэнтаваць у Беларусі. Калі ж казаць пра тое, што лепш за ўсё прадаецца, дык гэта "Twin Peaks", які, дарэчы, прыкметна спадабаўся і менскай публіцы.

**Вашыя праекты выходзяць за сьцены музэяў: вялізнае павуціньне, нацягненае паміж гарадзкімі высоткамі, бэтонныя модулі, пастаўленыя ў гарадзкім парку і абжытыя мясцовымі бамжамі... Як дазваляюць Вам рабіць такое гарадзкія ўлады?**
О! Гэта добрае пытаньне. Былі праблемы, яшчэ колькі! Хаця мяне ніхто не арыштоўваў за гэтыя акцыі, але часам прыходзілася вельмі нялёгка. Неяк у Германіі, у Дрэздэне, я працаваў над праектам "Wishful Thinking". І ніяк ня мог патлумачыць паліцыі: тое, што яны маюць намер ссунуць зь месца і адвезьці немаведама куды, зьяўляецца ня чым-небудзь, а творам мастацтва. Яны ўсё-ткі сарвалі акцыю, але затое інцыдэнт трапіў у прэсу, што для мяне ня так ужо і дрэнна.
Я разьвешваў павуціньне на дрэвах і паміж дамамі, бо мне гэта цікава; ставіў бэтонныя домікі ў парках і назіраў за тым, як у іх зьяўляліся людзі бяз пэўнага месца жыхарства - атрымліваецца, гэта было неабходна і мне, і ім. Людзям наагул не хапае месца для самоты: у нас занадта грамадзкай прасторы...

**Што ў найбліжэйшых плянах?**
Мой наступны праект будзе называцца "The Messengers of Abraham", я пляную яго на жнівень. Гэта будзе спроба аб'яднаць монатэістычныя рэлігіі - юдаізм, мусульманства, хрысьціянства. Я ўжо падрыхтаваў невялікі фільм пра трох дзяцей, што гуляюць у дартс. У гэтых дзяцей агульныя маці і бацька, але ў фільме ўсе трое маюць розны колер скуры. Фільм будзе праецыравацца на сьцены, на адной зь якіх я зьбіраюся разьмясьціць вялізную мапу сьвету, і кожны дзень уверх па ёй будзе ўздымацца сапраўдны альпініст.

**Эмоцыі, выкліканыя Беларусьсю?**
Тут добрая атмасфэра. Але такое ўражаньне, быццам у Беларусі ўсё схавана за шклом, і нельга ўбачыць, што адбываецца ўнутры памяшканьняў. Напрыклад, гледзячы на вітрыну, немагчыма вызначыць, што знаходзіцца за ёй - унівэрмаг, цырульня ці бар. Няма яркіх крыклівых шыльдаў - такіх, якіх поўна на Захадзе. Гэта для мяне нешта новае. Я зусім не крытыкую, наадварот, мне гэта падабаецца. Цікава адгадваць, што хаваецца за шклом. Вашая архітэктура нагадвае мне мае ўласныя праекты з бэтоннымі модулямі. У мяне нават нарадзіўся плян акцыі: працягнуць адзін бэтонны модуль з дапамогай рудога беларускага каня і невялікай брычкі ад Менску да Віцебску. Ёсьць і яшчэ ідэі: а што калі зрабіць фатаздымкі, скажам, 200x300 см, дзе я б рызыкнуў накласьці беларускую архітэктурную традыцыю на швэдзкую, а потым вярнуць атрыманы вынік на радзіму? Карацей, пасьля паездкі ў Беларусь у мяне поўна ідэяў - пасьля іншых замежных вандровак такога са мной не было.

размаўляла Эльвіра Істамянок

# студэнцкі сямейны партрэт

*Жыцьцёвы парадокс: адзін з самых адказных учынкаў у сваім жыцьці людзі зьдзяйсьняюць у маладыя гады. Калі няма жыцьцёвага досьведу, упэўненасьці ў будучыні і, часта, асэнсаванасьці сваіх дзеяньняў. Пры гэтым лічыцца, што калі "пераседзеў" свой узрост, то нічога добрага ўжо не атрымаецца. Чамусьці менавіта студэнцкія гады лічацца найбольш спрыяльным часам для таго, каб узяць шлюб. І як высьветліла* ***Алёна ШАЛАЕВА****, на гэтым парадоксы толькі пачынаюцца...*







## НЕ ХАДЗІЦЕ, ДЗЕЎКІ, ЗАМУЖ...

Прычына, па якой у згаданай прыпеўцы ня раілася выходзіць замуж, сёньня магла б атрымаць зваротны эфэкт. Пошасьць, канечне, але чым не матывацыя шлюбу? Цяжка пералічыць усе прычыны, якія штурхаюць моладзь да сумеснага жыцьця, але самыя распаўсюджаныя вылучыць можна.

***Ня сэксам адзіным***

"Прынята так, - кажуць людзі, - здаўна вядзецца, што трэба брацца шлюбам". Нягледзячы на "вымушанасьць", атрымаць пэўную карысьць "ад працэсу" таксама можна. Маюцца на ўвазе шлюбы па разьліку. Факт - пячатка ў пашпарце - мае месца, а далейшага практычнага выхаду - ніякага.

Звычайна такая "ячэйка грамадзтва" ўтвараецца па добра вядомых прычынах: выехаць за мяжу, застацца пасьля разьмеркаваньня ў Менску, атрымаць крэдыт і г.д. Вядомыя выпадкі, калі хлопцы браліся шлюбам з жанчынамі бальзакаўскага ўзросту, ды яшчэ якія маюць дзяцей. А што: і ў войска ня возьмуць, і старацца асабліва ня трэба - дзеці вялікія. "Факт" каштуе нятанна - ад 200 да 1000 эўра, у залежнасьці ад тэрмінаў і далейшых абставінаў. Толькі потым шукаць па ўсім сьвеце "мужа" ці "жонку", каб элемэнтарна разьвесьціся, можна ўсё жыцьцё.

Алесі К. на трэцім курсе падвярнулася добрая праца. Вучоба ў "кульку" асабліва не напружвала, толькі патрэбная была сталая менская прапіска. Сяброўка знайшла мужчыну, якому патрэбная была жонка (таксама па гэтых жа прычынах), і Алеська вырашыла "стварыць сям'ю". Дамовіліся "сямейнічаць" тры гады, а потым мірна разыйсьціся. Ёй гэтая праца патрэбная была больш, таму давялося заплаціць "дабрадзею" 350 баксаў. Усё было б добра, каб не сустрэла дзяўчына сваё каханьне, якое перавярнула ўсё дагары нагамі. Унівэр і праца адыйшлі некуды далёка, зьявіліся пляны ехаць з каханым у Гомель, дзе і пабрацца шлюбам. Сапраўдным. Пачаліся пошукі першага "мужа", які папросту зьнік. Дамовіліся ж праз тры гады сустрэцца... Як тут не праклянеш усё на сьвеце!

У рэшце рэшт "нашыя перамаглі", але чаго каштавала тая перамога, ведае адна Алеся.

Падобная сытуацыя са шлюбамі па разьліку: перш за ўсё - карысьць. Да вясельля падлічаны ўвесь пасаг маладой і ўнёсак маладога ў скарбонку будучай сям'і. Улічаныя сацыяльныя статусы ўсіх сваякоў і запрошаныя толькі патрэбныя госьці. Пра каханьне і гаворкі быць ня можа. Вясельле - проста дамова жыць разам. Разам з грашыма.

***Законна і ня вельмі***

Адваротны бок фактычных - грамадзянскія шлюбы: пячаткі няма, а ўсё іншае як у сапраўднай сям'і. Асабліва пашырыліся ў постсавецкі час, калі ў краіне раптам зьявіўся сэкс і ўсё, што зь ім зьвязанае. Прыжыліся ў моладзевым асяродку хутчэй за ўсё таму, што ўсё ж не абмяжоўваюць той самай пячаткай свабоду адзін аднаго.

"Хачу - мыю посуд, хачу - ня мыю, - кажа Каця, чацьвертакурсьніца БДПУ, якая жыве са сваім хлопцам амаль год. - Гэта зручна, бо такім чынам цэлы шэраг жыцьцёва важных патрэбаў - каханьне, сэкс, адпачынак, інтэлектуальныя зносіны - здымаецца".

Сутнасьць грамадзянскіх шлюбаў - жывеш разам, прыціраесься адно да аднаго, вывучаеш характар, звычкі, і гэта дае магчымасьць зразумець, як яно будзе далей. А калі нават не атрымаецца, можна спакойна, бяз болю, сьлёз і прэтэнзіяў разыйсьціся, бо не было ж нічога афіцыйнага і законнага.

А вось так, афіцыйна і па законе, таксама здараецца, і нават адразу. Праўда, зь пералічаных варыянтаў такі - самы рэдкі.

Навошта ўсё ж такі вясельле? Магчыма, каб з поўным правам сказаць: цяпер ты мой/мая, увесь, цалкам і назаўсёды! Усе людзі - уласьнікі, і валодаць кімсьці на законнай аснове лепш і спакайней, чым нэрвавацца і думаць: прыйдзе сёньня ці не. Менавіта законнасьцю яны адрозьніваюцца ад грамадзянскіх, той самай пячаткай, якая і ўтрымлівае ў сям'і мужа/жонку (але ці стрымлівае?). У грамадзянскім шлюбе разьлічваць даводзіцца толькі на давер, узаемапавагу і паразуменьне. Пэўна, гэтыя якасьці мацнейшыя за фіялетавыя крамзолі ў пашпарце.

Цікава, што добрая палова з тых, з кім давялося паразмаўляць па гэтай праблеме, добра ставяцца да шлюбаў, калі яны асэнсаваныя, абраньнік/-ца "правераныя часам", экстрэмальнымі абставінамі і сяброўкамі/сябрамі. Але ў дадзены момант, падчас вучобы, адказнасьць на сябе браць ня хочуць. Не гатовыя.

Макс з БНТУ лічыць, што гэта станоўчая тэндэнцыя. "Сьпярша варта ўладкавацца ў жыцьці, мець хоць нейкую пэрспэктыву, магчымасьць забясьпечваць сям'ю, а ўжо потым яе ствараць. І не наадварот! Зараз я за сябе не магу адказваць, ня ведаю, што мне стрэльне ў галаву праз 10 хвілінаў, а адказваць за жонку, дзіця?!"

## ГІСТОРЫЯ АДНАГО КАХАНЬНЯ

Дзіма зь Ірай вучыліся разам у Лінгвістычным. Напачатку былі звычайныя адносіны, а потым неяк само сабой атрымалася, што паасобку немагчыма. І пайшло-паехала...

Было добра разам, быў Крым, быў Полацак, падарожжы, мерапрыемствы...

Калі Іра даведалася, што зацяжарала, вырашылі стварыць сям'ю: сустракаюцца ня першы год, каханьне зьвязвае, ды і жаданьне такое зьявілася .

"Мяне раней трэсла, калі пра каханьне казалі як пра нейкую формулу, - кажа Дзіма. - Цяпер я ведаю, што каханьне - гэта таксама мастацтва. Каб жыць разам, трэба прытрымлівацца пэўных правілаў. Самае галоўнае - даваць адзін аднаму свабоду, магчымасьць разьвівацца. Муж і жонка ня мусяць падаўляць адзін аднаго, быць супернікамі. Проста павінна існаваць прастора для росту. Тады ў сям'і і адносіны гарманічныя, і ўзаемаразьвіцьцё, і дзеці вырастуць нармальнымі". Нарадзілася дачка Яна, Іра пайшла ў акадэмічны, а потым перавялася на завочнае.

"Ёсьць думка, што дзіця - гэта крыж на ўсім далейшым жыцьці. Я так не лічу, - кажа татачка Яны. - Дзіця - гэта натуральны працяг бацькоў. Але гэта асобны чалавек. Трэба аддаваць яму ўсё што можаш і не імкнуцца рабіць зь яго сваё падабенства. Няхай ён сам расьце, разьвіваецца, у яго сваё жыцьцё. А то ў нас заведзена, што бацькі за сына ці дачку ўсё вырашаюць і, фактычна, пражываюць за яго жыцьцё".

Ва ўнівэрсытэце на гэты шлюб адрэагавалі па-рознаму: студэнты - добра, некаторыя выкладчыкі - зь іроніяй, даскакаліся, маўляў. Але маладыя лічаць, што трэба верыць у тое, што робіш, і ўсё атрымаецца.

Уласным прыкладам быў разьбіты і міт пра звышфункцыянальную жонку і мужа на канапе. "Я, напрыклад, прыбіраюся, калі ёсьць час, гатую. І не раблю з гэтага подзьвігу. Абавязкі ў нас не разьмеркаваныя. Гэта ня так важна. Галоўнае, каб кожны мог рэалізаваць сябе, знайсьці выйсьце свайму патэнцыялу, і тады прыборка, гатаваньне ежы ня будзе зацыкліваць і задзёўбваць", - лічыць Дзіма.

"У сям'і самае галоўнае - уменьне дамаўляцца і адкрыта гаварыць пра свае праблемы. Іра пайшла на курсы псыхолягаў, а ў маёй душы ўзьнікла нейкае незадавальненьне. Яна прыходзіла ўвечары з заняткаў, а я пачынаў казаць, што гэтыя курсы - чарговая лухта, зноў "як дасягнуць посьпеху" і ўсё такое. На самой справе я такім чынам хаваў сваё незадавальненьне ня курсамі, а тым, што яна кудысьці ходзіць, а я - не. Потым мы пагаварылі, абмеркавалі ўсё, і праблема зьнікла".

З матэрыяльнага боку складанасьцяў больш, але дапамагаюць бацькі. Іра зьбіраецца ісьці выкладаць нямецкую мову ў дзіцячы садок, Дзіма езьдзіў працаваць летам у Штаты. На грошах на самой справе не зацыкліваюцца, а плянуюць, як з карысьцю адпачыць усім разам.

"Калі шчыра, я яшчэ ня ведаю, чым буду займацца, - кажа Дзіма пра будучыню. - Трэба жыць сёньняшнім днём, у сэнсе, ня думаць пра заўтра, а рабіць у гэты дзень усё па максымуму. Няхай тады ўсё ідзе само сабой. Сэнс жыцьця ня ў тым, каб зарабіць кучу грошай, знайсьці прэстыжную працу, а ў тым, каб пражыць яго шчасьліва. Вось прагулялі мы ўчора зь Янкай цэлы дзень, пафоткаліся, усё было цудоўна, ну і

файна! Дзень прайшоў шчасьліва!"

Задаю пытаньне, якое хвалюе больш за ўсё: ці праходзіць з часам каханьне? У адзін голас адказваюць: "Не!" Яно не зьнікае, а становіцца якасна іншым. Усе лічаць, што мядовы месяц павінен цягнуцца вечна. Але ўсё як па масьле не бывае. "Першыя ўражаньні праходзяць, і трэба ўмець адпускаць гэты час і пераходзіць на новы ўзровень. Я не лічу, што гэта пагаршэньне адносінаў - гэта іх разьвіцьцё".

## СЭКС

У адной савецкай кніжэнцыі сьціпленька і мімаходзь адзначаецца, што "сэксуальныя адносіны ў маладых сем'ях часьцей задавальняюць жонак, чым мужоў". Цяжка сказаць, якім чынам аўтары высьветлілі гэты факт. Але тое, што на сэксуальнай хвалі пачынае фармавацца большасьць сем'яў, дакладна. Бо - навошта крывіць душой - менавіта з-за сэксу (ці з-за яго наступстваў) людзі пачынаюць жыць разам.

Ды і вясельлі здаўна ладзяцца дзеля таго, чаго ўсе чакаюць. Прасьціны, канечне, на наступную раніцу ніхто ўжо не вывешвае на ўсеагульны агляд, але сам працэс пабудаваны на жартах падобнага характару.

Мала хто з маладых можа з прыемнасьцю ўзгадаць сваю першую шлюбную ноч: мітусьня, п'яныя госьці, стомленасьць... Здараецца нават і так, як гэта было ў Ані і Косьці, калі пад раніцу яны, пераступаючы праз сонных гасьцей, прабіраліся на кухню, дзе чарпакамі хлябталі пазаўчорашні боршч. Проста за сталом не было часу і магчымасьці паесьці! А потым чырвоныя плямы на сукенцы нявесты госьці ўспрымаюць як вынік згубленай цнатлівасьці і нястрыманасьці маладога.

Што да нястрыманасьці, то Вольга, якая мае зараз дваіх дзяцей, расказвае, што замуж выйшла ў пачатку 1 курсу мэдунівэрсытэту. Усіх "гэтых" справаў баялася і нават не ўяўляла, як усё адбываецца на самой справе. Першай шлюбнай ночы, як і другой, і трэцяй, не было. Месца мала, гасьцей шмат... Далей у Вольгі неяк атрымлівалася адбівацца ад мужа яшчэ тыдзень, спасылаючыся то на стомленасьць, то на галаўны боль. А потым... у яе пачаліся "жаночыя дні". І два тыдні навасьпечаны муж ня мог выканаць свой абавязак!

У кагосьці шлюбная ноч - першая пасьля шлюбу, а ў кагосьці - першая перад. Яна і становіцца нагодай. Ня дзіва, што "залётныя" вясельлі самыя распаўсюджаныя сярод студэнцтва. Пафігізм да ўласнага жыцьця (і ня толькі полавага) зводзіць абсалютна розных людзей, якія проста ня ведаюць, як жыць далей разам. А "далей" бывае не заўсёды вясёлае. Статыстыка сьведчыць, што на сто шлюбаў сёньня прыпадае шэсьцьдзесят разводаў. За 2000 г., напрыклад, колькасьць шлюбаў склала 62 485, а разводаў - 43 512. Кожны думае, што трапіць у лік 18 973, але верагоднасьць у менш за 30% - гэта ўжо амаль неверагоднасьць.

Выпускнік "пэду" Аляксандар на 1 курсе нават не ўяўляў, пра што можна размаўляць з аднагрупніцай Танькай. А на III у іх нарадзілася дзіця. І вось тут пачынаецца самае цікавае. Найвышэйшы экстрым - нарадзіць дзіця падчас сэсіі. Аляксандар, які не хавае вымушанасьці ўчынку, кажа, што адчуваў сябе вар'ятам: "Калі ты рыхтуесься да іспытаў, у суседнім пакоі сьвяткуюць іх здачу, малое ўвесь час крычыць, жонка нэрвуецца, то хочацца проста забіць усіх адразу!"

## БАБКІ І МАМКІ

Як у тым анэкдоце: маці пытаецца ў "залётнай" дачкі: "Дзе ж была твая галава ў гэты час?" "Ня памятаю, мамка, дзесьці пад рулём".

Бацькі сварацца, вучацца, зноў сварацца, а больш за ўсіх іншых церпяць дзеці. Сытуацыя, калі "дзеці робяць дзяцей", ня новая і нават звыклая. У Канадзе, напрыклад, пры школах існуюць дзіцячыя садкі, дзе вучні пакідаюць сваіх дзяцей, калі самі ідуць на заняткі. Мы спадзяемся на бабуляў і дзядуляў, калі хочацца схадзіць на які-небудзь начны дэнс ці проста пабадзяцца "як у халастыя гады".

Фінансавае жыцьцё маладых складанае. Паводле дасьледаваньняў, студэнцкая катэгорыя сем'яў адносіцца да найбяднейшай групы грамадзтва. Магчыма, гэта часовы фактар. Маладыя сем'і, прывыклыя да студэнцкага лайф-стайлу, гатовыя цярпець многія матэрыяльныя нязручнасьці, бо арыентаваныя ўсё ж на больш забясьпечаную будучыню.

Тым ня менш, дапамога патрэбная заўсёды. Адно вясельле, калі не лічыць бабуліных сьвіней і назьбіранай за год гарэлкі, наўрад ці ўкладзецца ў 1000 баксаў. Наста і Арцём супраць такіх цырымоніяў: "У нас не было вясельля. Навошта гэтая вар'яцкая гулянка з падкіданьнем на крэслах і ненасытна-прылюдным "Горка!"? Навошта клопаты, свае і родных, галовы, забітыя праблемамі? Навошта хваляваньні, ці ўсяго хопіць, ці ўсё атрымаецца, ці ўсе будуць задаволеныя? Шлюб - гэта сьвята для дваіх, а не для 120! Мы сьвяткавалі пачатак свайго сумеснага жыцьця ў Крыме. Гэта быў самы чароўны час!"

Спажывецкі кошык студэнцкай сям'і нічым не адрозьніваецца ад "дарослага", нават патрабуе большых затратаў: жыльлё, вопратка, ежа, дзіця... Як выжывае студэнт у такой сытуацыі, навуцы невядома. Выйсьце бачыцца ў пераходзе на завочку, часам даводзіцца кінуць вучобу ўвогуле - трэба забясьпечваць сям'ю. Дарэчы, у кожнай ВНУ існуюць "Клюбы маладой сям'і" , якія дапамагаюць кансультацыямі, а таксама аказваюць сацыяльную і матэрыяльную падтрымку. Клюбэры кажуць, што справа вельмі патрэбная, і нядрэнна было б увесьці які-небудзь курс па сямейнай пэдагогіцы. Таму што самаму галоўнаму - як пражыць з каханым чалавекам усё жыцьцё - нідзе ня вучаць.

Бо як высьвятляецца, родныя "маман" і "папан" (калі апошні ў наяўнасьці) для будучых бацькоў і мацярок выстаўляюць ня самыя лепшыя прыклады для пераймання.

Істотны фактар пасьпяховай студэцкай сям'і - бацькі, а калі не надаваць гэтаму брутальны сэнс, то іх адсутнасьць: яны - асобна, мы - асобна. Усё ж такі вяртаючыся да бруталу, атрымліваецца, што трэба выходзіць за сірату, каб ні бацькі, ні родныя не дасталі.

Групэнсэкс у адной кватэры, калі маладыя жывуць за сьценкай ад бацькоўскага пакою - часьцей за ўсё вар'ятня. Шматлікія анэкдоты пра цешчу і сьвякруху - яскравае таму сьведчаньне. Але тыя бацькі, якія самі пабраліся студэнтамі, прасьцей успрымаюць экстрэмальныя ўчынкі сваіх "чадаў".

Алеся і Ігар пазнаёміліся ў абітуры тэхналягічнага і з таго часу сустракаліся. Пад канец другога атрымаўся "залёт". Вырашылі ажаніцца. Але, па-першае, трэба было сказаць бацькам. Больш за ўсё баяліся Алесінага бацьку, чалавека суровага і кансэрватыўнага. Праз паўгадзіны, накрычаўшыся матам на ўвесь сьвет, бацька падсеў да дачкі і запытаў: "Адкажы мне на адно пытаньне: твой Ігар хоць нармальны як мужык? Табе зь ім добра?" Дзяўчына змагла толькі кіўнуць у адказ, але справа была вырашаная.





# open air

фэстывальны гід

**Адзін мой сябар з пачаткам кожнага чэрвеня пачынае нецярпліва біць капытом, як баявы конь, і прыгаворваць: "Што будзе далей, ня ведаю, але ехаць трэба". Мой сябар мае рацыю: усе на open air фэсты!**

Слава Скугарэўскі














## ня будзе

Пачнем, натуральна, з кепскага. Дружнымі шэрагамі ўстанем і трошкі памаўчым, памінаючы сьветлай памяці фэст Казантып.
Першыя мышы наконт таго, што яго прыкрыюць, прабеглі ў СМІ 21 траўня. Менавіта тады Вярхоўны Савет Крыму забараніў будучы Казантып-2003. Выступ крымскага міністра аховы здароўя Сяргея Доніча быў напоўнены такімі зваротамі, як "скрайне нэгатыўны", "сынтэтычныя і цяжкія наркотыкі", "сьмяротныя выпадкі" і іншае. Яшчэ адна вэрсія сьмерці фэсту - вялікія даходы яго арганізатараў, якія раздражняюць крымскі ўрад. Афіцыйны сайт Казантыпу рэагуе пакуль разгубленай балбатнёй на тэму, але падобна на тое, што мясцовыя ўлады ўзяліся за справу сур'ёзна і кіна сапраўды ня будзе... Ну што ж, памянём Аранжавую Рэспубліку добрым ціхім словам. Яна сваю справу зрабіла - падарыла нам 11 рудых гадоў волі, мора, маладосьці, лепшых ды-джэяў. Аўтару гэтых радкоў пэрсанальна - кавалак лета 1995-га, у які зьмясьцілася вельмі многае. Хаця хлусіць ня буду - пасьля нядаўна прачытанага раману Стагоффа "Masiafucker" мае адносіны да Казантыпу ніколі ўжо ня будуць такімі сонечнымі, як раней. Ёсьць у гэтай кнізе адна жудасная казантыпаўская сцэна, а я - чалавек уражлівы...
Ну добра, адбіраюць у нас Казантып, гады. Тады куды?
Пра стандартна-папсовыя варыянты - Ібіцу і Гоа - хіба што і казаць няёмка, настолькі яны замасоленыя і "разьвесістыя" ў дрэнным сэнсе слова. Ну ня 1994 ж на двары, у рэшце рэшт! І нават ня 1998!!! Але літаральна пару словаў сказаць давядзецца - раптам сярод вас ёсьць ахвотнікі панастальгаваць па залатых рэйв-дзяньках сярэдзіны мінулага дзесяцігодзьдзя.



## павінна быць

**ІБІЦА**. Акрамя таго што ёсьць гішпанская машына "СЕАТ-Ібіца", ёсьць яшчэ аднайменная гішпанская выспа. Клюбнае жыцьцё - з 1968 году. Дзесьці да сярэдзіны 80-х Ібіца была цалкам закрытай VIP-вечарынкай, куды простым сьмяротным ходу не было. Зараз - своеасаблівы адстойнік, куды зьліваюцца самыя папсовыя тэндэнцыі ў сусьветнай дэнс-электроніцы. На Ібіцы ж знаходзіцца самы папсовы клюб сьвету - Pasha. З аднаго боку, ён дарагі, наварочаны, зь іншага - неймаверна пошлы, чым і ганарыцца. Найгоршы варыянт.
Канечне, ёсьць і выключэньні. Напрыклад, Amnesia, другі папсовы клюб выспы. Amnesia, заснаваная аргентынскім бармэнам і ды-джэем Альфрэда, куды больш прыстойная ва ўсіх адносінах, у тым ліку і ў музычным пляне. Гэтым летам рэзыдэнт клюбу - сам Пол Оўкенфолд. А наагул клюбаў на Ібіцы каля 80. Усе яны бясконца спаборнічаюць за кліента, праводзяць парады на вуліцах ды іншае.
Карацей, добрага мала. Абкураныя галяндцы ў абдымку з партугальцамі, дзеўкі бязь ліфікаў, і кошт усяго гэтага - мінімум 300 эўра на суткі. Каму патрэбная раскоша, калі яна агульнадаступная?

**ГОА**. Таксама старадаўняе гіпоўскае месца, вядомае з 1967-га. Аддалена ад лянотных эўрапейскіх турыстаў (Індыя), таму менш пошлае, чым Ібіца. Бэкграўнд практычна не зьмяніўся з часоў псыхадэлічных хэпэнінгаў Лета Каханьня, хіба што цяпер замест "Сяржанта Пэпэра" слухаюць ды-джэяў. Па чутках (сам ня быў), казачная таннасьць - можна пражыць ледзь не на дзесяць эўра на дзень - і фантастычная энэргетыка. Дабірацца, канечне, складана - усё-такі самалётам да Дэлі, потым аўтобусам, - але яно таго вартае.



## не пасьпелі

Па вялікім рахунку старт оўпэн-эйр-фэстаў даецца чэрвенем - прыкладна ў другой палове пачынаюцца канцэрты, п'янкі, гулянкі ў аддаленых ад населеных пунктаў парках, запаведніках.
На жаль, шмат чаго мы ўжо прапусьцілі. Гэта нямецкі Rock Am Ring (прайшоў 6-7 чэрвеня), галяндзкі Pinkpop Festival (9 чэрвеня), дацкі Rockilde Festival (28 чэрвеня), бэльгійскі Werchter Festival (29 чэрвеня), нарвэскі Quart Festival (2 ліпеня), аўстрыйскі Forest Glade (4-5 ліпеня).
Самай вялікай стратай у гэтым шэрагу стаў, канечне, легендарны брытанскі Глястанбэры-2003 (27-29 чэрвеня) - квіткі на яго былі распрададзеныя яшчэ за два месяцы, а выступілі на фэсьце такія монстры, як Suede, Echo&The Bunnymen, R.E.M., Radiohead, Manic Street Preachers, Мобі, Мэйсі Грэй. Калі ўлічыць, што "хэды" выдалі новы альбом, як зрэшты і Мэйсі, то жыцьцё не ўдалося...
Шкада таксама ангельскі фэст Даўнлоўд (31 чэрвеня - 1 ліпеня) - вялізная колькасьць "цяжкіх" артыстаў на чале з Iron Maiden, The Deftones і Limp Bizkit.
А 5-6 ліпеня ў фінскім Турку маглі адарвацца папсовыя мэталхэды. Фэст Ruisrock - вельмі прадстаўнічае зборышча мэталічных і калямэталічных бандаў. Націск на фінскія каманды, але былі амэрыканцы, канадыйцы, ангельцы, швэды. Зоркі: Apocalyptica, Amorphis, HIM.
12-13 ліпеня ў ангельскім Баляда прайшоў T In The Park. Кошт на два дні быў 65 фунтаў, на адзін - 38,5 фунты. Фэст ладзіць кампанія Universal Music, таму пераважалі юнівэрсалаўскія артысты. На мой густ, слабей за Глястанбэры будзе, але затое кошты ніжэйшыя і атмасфэра з адчувальным шатляндзкім прысмакам. Гралі Coldplay, The Charlatans, R.E.M., Supergrass, Underworld, The Cardigans і маладыя, але ўжо героі - чумавыя новазэляндцы The Datsuns.
Але наперадзе ў нас яшчэ другая палова ліпеня і цэлы жнівень!



## самы час

**13 ліпеня**, Ірляндыя, фэст Witnness. Справа маладая, праводзіцца ўсяго пяты раз. Арыентацыя - рокавая. Хэдлайнэрамі будуць Coldplay.

**18-19 ліпеня**, Барнаул, Расея, фэст этнічных культураў "Жывая Вада". Чакаюцца выступы этнічных ансамбляў з Расеі, Украіны, Латвіі, Фінляндыі, Румыніі, Вугоршчыны, Партугаліі, Італіі. У якасьці ганаровай госьці магчыма засьвеціцца Ніна Хаген.

**30 ліпеня - 5 жніўня**, Будапэшт, Вугоршчына, фэст Sziget.
Калісьці Pepsi-Sziget, зь 2002 году ўжо без усялякага пэпсі. Самы звыклы, амаль хатні эўрапейскі фэст для менчукоў - на яго зьезьдзілі ўжо ўсе каму не лянота. Прызнаюся: мне - лянота!.. Фэст ладзіцца па прынцыпе "валі ўсё ў кучу, потым разьбярэмся". Гэткі вугорскі аналяг Глястанбэры. Шмат пляцовак і шмат рознага на іх. Зоркі гэтага году - Morcheeba, Fun Lovin' Criminals, Moloko (гэта яшчэ недакладна), De Fuzz, Tatu (таксама недакладна), Massive Attack, Slayer і Earth, Wind&Fire (адчуваеце размах арганізатараў, а? ад Слэера да Эрз, В энд Ф...).

**1-4 жніўня**, Сочы, Расея, фэст "ІнтэГРА-2003". Калі ўсё пойдзе як трэба, верагодна, зможа (цьфу-цьфу-цьфу) замяніць нам памерлы Казантып.
Задумваецца нешта вельмі "разьвесістае" з удзелам масы знакамітага народу. Магчыма, прыедуць The Chemical Brothers, Aphex Twin, Томас Брыкман; з расейцаў - цікавыя іжэўскія хлопцы "РяБа Мутант", масквічы NetSlov, Second Hand Band і многія іншыя. Пляцоўка - на схіле гары Ахун, вышыня - 2,5 км, два танцполы, адкрыты і закрыты, чыл-аўт і іншыя радасьці. На дадзены момант - мабыць, самы цікавы і пэрспэктыўны фэст будучага лета, які я б настойліва рэкамэндаваў.

**16-17 жніўня**, Чэлмсфард, Вялікабрытанія, фэст V2003. Ладзіць Virgin, таму і назва на V. Давядзецца перціся ў ангельскую правінцыю, Стафардшыр. Першы дзень у Чэлмсфардзе, другі ў Стафардзе. Удзельнікі пакуль ня вызначыліся, але дакладна вядома, што хэдлайнэрамі стануць Feeder. Будуць Пі Джэй Харві з The Cardigans.

**21-24 жніўня**, Стакгольм, фэст клясычнай музыкі Балтыйскага мора. Граюць калектывы з Прыбалтыкі, Скандынавіі, Расеі, Германіі, Польшчы. Трэба меркаваць, добра граюць... Магчыма, удзельнічае Apocalyptica.

**23-25 жніўня**, замак Слэйн Кастл, Ірляндыя. У прыгарадзе Дубліна, месца найпрыгажэйшае - велізарны сярэднявечны замак, натуральнай сцэнай служыць падножжа ўзгорку. Таксама невядома, хто будзе, але ў Слэйн Кастл надзвычайна любяць граць U2, так што зьяўленьне ірляндзкіх супэргерояў вельмі верагоднае.

Пералічыць, вядомая справа, удалося ня ўсё. Караценька памянём славацкі фэст Pohoda (**18 ліпеня**), два швэйцарскія - Garten (**19 ліпеня**) і Nyon Paleo (**25 ліпеня**), нямецкія Tauberfal (**8 жніўня**) і Haldern (**9 жніўня**). Усё - рок-н-рол з варыянтамі.

Ну што, вясёлае ў нас лета атрымліваецца? Ды мабыць так. Толькі пасьпявай матляцца паміж пляцоўкамі. А яшчэ ж і піва трэба некалі піць. Посьпехаў!




! САМЫ СКАНДАЛЬНЫ ПЕРАКЛАД ГОДУ!!!

ХУТКА НА

WWW.STUDUMKA.COM

АЛЬДЗЯ НОВЭ

СЬВЕТ КАХАНЬНЯ

*"Сэрджа наблізіўся да мяне, адпіхваючыся локцямі ад падлогі. Ён пахнуў Denim'ам і крывёю... Гэта была першая поза 69 у маім жыцьці.Першая ў якасьці жанчыны. І адзіная ў якасьці паміраючага".*









# БЭМ-БЭМ*

ОПЭН ЗЭ ДОР

*БЕЛАРУСКАЯ ЭЛЕКТРОННАЯ МУЗЫКА
БЕЛАРУСКАЯ ЭЛЕКТРОННАЯ МУЗЫКА
БЕЛАРУСКАЯ ЭЛЕКТРОННАЯ МУЗЫКА




**Падобна на тое, што электронная музыка зараз у фаворы. Толькі пасьпелі ELECTRO KIDS адкатаць сэрыю фэстываляў "Система Электронного Безумия" (закрыцьцё адбылося 3 траўня), а на падыходзе ўжо ELKA MINSK 2. У чаканьні мерапрыемства, заплянаванага на 4 ліпеня, спрабуем актыўна выкарыстаць перапынак паміж ударамі электроннага пульсу і прапануем актуальны зрэз Беларускай Электроннай Музыкі: твары, цытаты, ідэі.**

ЗАСЬВЯЦІЛІСЯ

**dreamlin (1)**
Менскі даўнтэмпа/трып-хоп/эйсыд-джаз праект
**Склад:** Ягор Куноўскі, Дзяніс Карабкоў
**Mojo:** "Калі б я меў магчымасьць, я б кіраваў аркестрам. Але такой магчымасьці няма" (Ягор)

**d`iskord**
**Склад:** Аляксандар Трацьцякоў
**Mojo:** "Процістаяньне супрацьлегласьцяў"

**psychodelia alpha (2)**
ambient, techno, trance і іх вытворныя
**Склад:** Ігар Мысьліцкі aka Mig, Павел Філіпчык aka Flop
**Mojo:** "Менш за ўсё нам хацелася б пісаць камэрцыйную музыку (проста сумна)"

**Андрэй Савіцкі (3)**
Экспэрымэнтуе, чуе, бачыць, робіць. Падрабязнасьці на **hhtp.org**

**unknown frequencies (4)**
idm/electro
**Склад:** Un-co - Арцём Худзякоў, Tforzky - Васіль Таворскі
**Mojo:** "Космас, каханьне, наркотык, музыка - кайф"

**electro kids (5)**
прома-група, арганізатары СЭБа
**Склад:** Віталь (T-Trider), Антон ("Координаты Чудес"), Ігар Кулеў
**Mojo:** "Усеагульны пазытыў... Свабода творчасьці і творчы адрыў"

### ФЭНАМЭНАЛЁГІЯ
Беларуская Э-культура ўсё яшчэ хварэе на падлеткавы сындром самасьцьвярджэньня. Зь інтэрвію зь Ігарам Мысьліцкім, музыкам групы **Psychodelia Alpha** (ад IDM да techno, ад trance да breakbeat): "Давайце паглядзім, калі наагул узьнікла беларуская электронная музыка. Рызыкну меркаваць, у канцы 80-х - пачатку 90-х мінулага стагодзьдзя. Пра што ў такім выпадку можа ісьці размова? Хутчэй пра больш ці менш цікавыя варыяцыі на тэму сусьветнай ЭМ. Пакуль яшчэ рана казаць пра самабытнасьць і асаблівасьці беларускіх электронных праектаў".
Віцебскі музыка **D`iskord** (ambient) таксама ня ўпэўнены, што ў пляне самавызначэньня ўсё ОК: "Толькі некаторыя музыкі імкнуцца ўнесьці нешта беларускае, у асноўным жа беларуская электронная музыка арыентаваная на Захад і асаблівасьці мае выключна індывідуальныя". Перакладаючы на звычайную мову: so sorry, darling, не зрабілі мы пакуль беларускага нацыянальнага прадукту... не дарасьлі... Не дарасьлі?

### НАШЫ ІДУЦЬ!
Ну і што, скажыце, дрэннага ў арыентацыі на Захад? Калі беларускія музыкі накіроўваюць прадукты сваёй творчасьці "туды", значыць, "там" яны патрэбныя. Напрыклад, менскі Dreamlin. Першыя два гады праект існаваў выключна ў інтэрнэце. Народ пісаў музыку, сеяў свае постіндустрыйныя шрубы на пладавітай заходняй глебе. Як? Элемэнтарна, праз так званыя ОЭМДэшныя (OMD - Online Music Distributor) сайты, такія як MP3.com ці ampcast.com. Сымптаматычна: упершыню перад публікай Dreamlin зьявіўся ў Лёндане. Іх музыку настолькі бездакорна пераварыў замежны шоў-арганізм, што кампазыцыі каманды пачалі выкарыстоўваць як саўндтрэкі да фільмаў ("Bit Mountain" як прэ-саўндтрэк да галівудзкага "S.W.A.T.") і авангардныя відэа-інсталяцыі (вылаўленыя ў нэце кампазыцыі Dreamlin як "падкладка" да інсталяцыяў у Парыжы). У Беларусі камбайн Dreamlin пачаў збор ураджаю з прыза на фэсьце "Кібэрпанк 2000". Пазьней папулярнасьць праекту толькі расла: іх можна было чуць на вечарынах у "Амадэі", "Разгуляі", "Буда-Бары" і "NC".
Экспартны варыянт беларускай "электроншчыны" выстаўляе на музычны рынак і група Psychodelia Alpha. Іх музыка ўзбудзіла фантазіі маскоўскіх прамоўтэраў і ўвайшла ў джанглавую зборку разам з кампазыцыямі буйных расейскіх электроншчыкаў. Што характэрна: за мяжу вывозяцца толькі прадукты творчасьці беларускіх Э-музыкаў. Самі яны застаюцца тут і працягваюць "ваяць" для нас з вамі. Спэцыфіка жанру?

### ПУП І БАЛОТА
Нягледзячы на тое, што Менск адназначна не зьяўляецца пупам беларускай ЭМ, ён усё ж мае прэтэнзіі на гэткую мясцовую сталіцу Э-культуры. Менск кандэнсуе "электраэнэргію". Сюды на "Систему Электронного Безумия" прыяжджалі такія музыкі, як згаданы D`iskord (Віцебск), i/dex (Наваполацак), Randomajestiq (Гомель)... І не ўпускалі шанцу крыху паплакацца ў камізэльку сталічным снобам. **D`iskord**: "У Віцебску таксама адбываюцца нейкія падзеі, зьвязаныя з электроннай музыкай, аднак пік актыўнасьці ўжо мінуў, і зараз там проста балота ў клюбным жыцьці. Аўтарская музыка альбо сядзіць у андэрграўндзе, альбо зводзіцца да пяці вядомых мне людзей". Гм... "пяць людзей" плюс шосты D`iskord... Ня так ужо і дрэнна!

### FACE TO FACE
Што да магчымасьцяў сустрэцца з электроншчынай "тварам да твару", то гэта адбываецца на прыватных вечарынках і адкрытых фэстывалях. Самыя вядомыя "электрастанцыі"?.. Пачнем зь легендарнага "КІБЭРПАНКУ 2000", які праходзіў у кастрычніку 2000 г. у "Белэкспа" падчас выставы PTS 2000. Альтэрнатыўную культуру тут можна было ня толькі чуць, але і бачыць, таму што апрача музыкі (house techno, drum'n'bass-bigbeat, trip-hip-hop, latino dancing) там было прэзэнтавана шмат - часам зусім абязбашаных - мадэляў кібэрпанкавага haute couture. Першы нацыянальны фэстываль сучаснай музыкі "Новые Звуки Мира", у прынцыпе, вядомы тым, што яго выкарыстала ў якасьці старт-пляцоўкі Psychodelia Alpha. Была яшчэ ELKA MINSK 2002 у "Разгуляі" (жнівень 2002). Там разгуляліся такія творцы, як Novel 23 (Масква), Ёд, h.h.t.p., JDPC, Un-co, Tforzki, Dreamlin, Maks Retort, Combi. Тых, хто там апынуўся, хваляваў experimental, відэа-арт і заражала танцавальная электронная музыка. Арганізатар першай "Елкі" Сяргей Прасаловіч (Combi) імкнуўся правесьці жывы фэстываль, сабраць усіх разам - прынамсі, каб пераznаёміць. У гэтым годзе знаёмства працягнецца. Як мінімум.

Асобна - пра "Систему Электронного Безумия". Па ацэнках саміх музыкаў, яна заслугоўвае званьня аднаго з самых шырокіх рэспубліканскіх палёў ЭМ. Ягор, адзін з Dreamlin, ня можа схаваць свайго энтузіязму: "Наколькі я ў курсе, СЭБ - унікальная зьява нават на сусьветным узроўні. Ня думаю, што недзе ёсьць людзі, якія танчаць пад IDM. І ўжо дакладна нідзе выступы ў такім фармаце, як СЭБ, не ператвараліся ў настолькі масавыя мерапрыемствы". На працягу сямі месяцаў СЭБ карміў усіх ахвотных якасным айчынным прадуктам. У **D`iskord** СЭБ выклікае самыя прыемныя ўспаміны: "Нягледзячы на інфантыльную назву, ён проста ўразіў мяне! Я не чакаў сустрэць такой электроннай салідарнасьці. Уразіла атмасфэра сьвежасьці і аўтэнтычнасьці". **Dreamlin** з гэтай жа нагоды: "Мне ўдалося навучыцца адчуваць залю і разумець, што трэба рабіць прама зараз падчас нашага сэту, каб усім было хаця б так жа добра, як і да таго, як мы пачалі граць. Ну і зразумеў, як сабраць народ на танцпол альбо, наадварот, адправіць сяго-таго ў бар. Дый наагул на СЭБе ў мяне як у музыкі абсалютная свабода, бо я ведаю: што б я ні ўчыніў, гэта ўсё роўна не сапсуе адносінаў з астатнімі музыкамі ды арганізатарамі і не адменіць нашых далейшых выступаў".




фота: Лена Глухава, Мікіта Андрэеў, Dreamlin, nestor.minsk.by

### ЭМ-КАНЦЭПЦЫЯ
"Што такое электронная музыка? Ну і пытаньне! Электронная музыка - гэта... ууууууууу, ооооооооо..." (**Electro Kids**)
"Музыка - гэта гарманічнае спалучэньне гукаў. Электронная музыка - гэта гарманічнае спалучэньне гукаў, створаных пры дапамозе электронных інструмэнтаў, напрыклад, сынтэзатараў, кампутараў, драм-машын і г.д. Тут, як паўсюль, важная сама ідэя" (Арцём Un-co, **Unknown Frequencies**)
"Камэрцыйную музыку пісаць нашмат складаней, там крок уперад-назад - і песьня ўжо ня гіт, не прадаецца. У гэтым сэнсе экспэрымэнтальную музыку пісаць лягчэй... але яе ніколі ня будуць круціць у Макдоналдсе" (Ягор, **Dreamlin**)
"Электронная экспэрымэнтальная музыка - гэта і тое, што ўзята з гэтага сьвету, скапіявана, адноўлена, сымулявана, і тое, чаго няма ў навакольным сьвеце, але ёсьць у нас саміх" (Андрэй Савіцкі, **h.h.t.p.**)

— ЦЫТАТНІК —

### ЭМ-ПРАЦЭС
"Кампутар зьяўляецца не інструмэнтам, што павышае вытворчасьць працы, але і інструмэнтам творчасьці" (Андрэй Савіцкі, **h.h.t.p.**)
"Усё ўзаемазьвязана - графіка, гук... Гук нараджае графічныя вобразы, назіраньні накапліваюцца ў эмацыйны запас, і калі прыходзіць натхненьне, ён выплёскваецца, ператвараючыся ў музыку" (Арцём Un-Co, **Unknown Frequencies**)
"Творчасьць і экспэрымэнт, кайф, космас, каханьне, наркотык, музыка - гэта ўсё" (Арцём Un-Co, **Unknown Frequencies**).
"Кампутар, ведаеш, як своеасаблівы канвэер" (Андрэй Савіцкі, **h.h.t.p.**).
"Гэта хвароба такая: тыя, хто на яе хварэе, маюць IQ ня больш за 80, але яны дзіўным чынам музычныя" (Ягор, **Dreamlin**)

— ЦЫТАТНІК —

### СЕТКА
На што дакладна не даводзіцца скардзіцца, дык гэта на адсутнасьць інфармацыі ў сетцы. Як для аматараў, так і для кампазытараў існуе зь дзясятак карысных рэсурсаў, якія могуць ня толькі выконваць функцыю крыніцаў інфармацыі, але і служыць прасторай для камунікацыі. Сярод іх - заслужаны вэтэран **oxidiser.net**, малады сайт беларускага брэйк-біту **rave.by** і рэсурс Electro Kids - **electrokids.org**. А таксама:

**gizmo-lab.net**
**www.muzz-on.by.ru**
**www.studio.by/oxi**
**www.minsk-off-air.com** etc.

Пры наяўнасьці элемэнтарнага жаданьня тут можна атрымаць усю актуальную інфармацыю пра будучыя фэстывалі і вечарынкі. Так што stay tuned!

# ДЭЖАВЮ




Дошка гонару CD за жнівень 2002 - травень 2003

**CD #8, 2002**
**ТЭМА: клюбная культура Менску (першы глыбокаканцэптуальны)**
"КЛАБІЛІТ" ад Comensart. Электронная культура ў Беларусі існуе.
"КАРОТКАЯ ГІСТОРЫЯ МЕНСКАЙ CLUBILITY" ад легенды тутэйшых танцполаў dj IFU (Менск-Лёндан).
"FACE CONTROL", менскія ды-джэі ў тварах. Вядома, збор няпоўны. Але першы.
"FLYERS' COLLECTION" - колькі іх было, пропускаў у лепшае - клюбнае - жыцьцё! Ад Вікі-Віктора.

**CD #9, 2002**
**ТЭМА: Менск (нашымі вачыма)**
"ЗДАНІ ПОБАЧ" ад Леніна і Джэці. Адам Глёбус аб'яўляе на litara.net вайну "CD". "CD" - пофіг.
"MINSK" Мартса Пуятса (Рыга, orbita.lv) у перакладзе Андрэя Хадановіча. Згубіць дзьве гадзіны для таго, каб зразумець, што Менск - гэта нашая плянэта.
"NO LIMITS" ад Андрэя Гнёта. Фэномэн ліміты ў бел. рэаліях. Гнеўныя лісты ў рэдакцыю: "Мы не такія!"
"КРАСКИ. ПРАДУКТ №1 БЕЛАРУСКАЙ ФАБРЫКІ ЗОРАК". Добразычліўцы пачынаюць выказвацца ў адрас "CD" адназначна - "папса галімая". Нарэшце...
"УСТУПНАЯ КАМПАНІЯ-2002. ПРЭЛЮДЫЯ ДА ДОЎГАГА КАХАНЬНЯ" ад Ірыны Віданавай. Самы момант перачытаць.

**CD #10, 2002 (спроба рабіць пасьпяховы грэй-глянец)**
**ТЭМА: пакаленьне XYZ**
"ПАКАЛЕНЬНЕ ІКС. MY DE-GENERATION" ад Паўла Таэна. Гэтага артыкула магло й ня быць. Але ж дадумаліся - і зьявіўся.
"МАЙКРАСОФТ УОРД. БЕЛАРУСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК" ад Лёшы Яцукевіча. Для тых, хто ня ведае, што такое мудзі, шалабас і фарш.
"EVERYTHING CHANGES", недзіцячая настальгія дарослых падлеткаў. Так і трэба рабіць зь мінулым - на сьметнік.
"МАРЫ ЗБЫВАЮЦЦА". Настальжы-фотасэсія пра нас, маладых старых.

**CD #11-12, 2002 (+ CDgratis: "Беларускі турба-міксэр" )**
**ТЭМА: культ**
"ДЖЭДАІЗМ. АСНОВЫ ВЕРАВЫЗНАНЬНЯ". Дарэмныя пошукі адэптаў "Зорных войнаў" у Беларусі. Праз пару месяцаў ад іх немагчыма было адбіцца.
"КАРОЛЬ У ЛЕАПАРДАВЫМ ФУТРЫ" ад maryjki. Кажам Л*** - маем на ўвазе...
"ТАМ, ДЗЕ НАС НІХТО НЕ ЧАКАЕ" ад Алеся Безкі. Актуальны шляхаводнік па магілках вялікіх.
"PERSONAL DEPECHE". Зараз таньней за 34.000 і ня купіш.

**CD #1, 2003 (VitaminV, we love you!)**
**ТЭМА: сынтэтыка**
"КУЛЬТАВЫ BEL.NET" ад Алісы Бізяевай. Частку "архівы" можна завучваць як катэхізыс.
"КСЯНДЗЫ МЕНСКАГА КЛЯБІНГУ". Прома-група Jet Sounds прымярае сутаны і німбы.
"СТУДЭНЦКІ ARBEIT" ад Алёны Шалаевай. Шукаем падпрацоўку за грошы.

**CD #2, 2003**
**ТЭМА: рок-н-рол із (усё ня так проста, як падаецца)**
"І НЯХАЙ ВАШ ШОЎ-БІЗНЭС ІДЗЕ Ў ДУПУ!" Увосені 2003-га Слава Корань пашле яго яшчэ раз.
"АХВЯРЫ АБОРТУ. НЕНАРОДЖАНЫЯ БЕЛАРУСКІМ РОК-Н-РОЛАМ" ад Андрэаса Копыса. Абартаваны Юра Хобіт (exist), вярнуўшыся зь Ірляндыі, доўга шукаў гэты нумар. Пасьля зьехаў на Кіпр.
"16 ПАЎНАЛЕТНІХ АЛЬБОМАЎ, ШТО ЗЬМЯНІЛІ БЕЛАРУСКІ РОК" ад Сяргея Будкіна, Паўла Сьвярдлова і Алекса Стрэла. Ад "Песьняроў" да "Вольных танцаў".
"САМ ТЫ ВЫДАТ!" DIY-выданьні па вэрсіі Леніна і Джэці.
"МОДЫ. ТЫЯ, КАГО Ў НАС НЕ БЫЛО" ад Славы Бандарэнкі. Мода на модаў? Не-е-е! На "Лямбрэту" - і рокераў мачыць!

**CD #3, 2003**
**ТЭМА: body (лепей было б назваць "гвалт")**
"АД SEXII ДА SEXII". Чарговы скандальны матэрыял Алёшы Сярых: па тэксьце - менскія студэнткі аддаюцца за грошы, па ілюстрацыях - клясычна і праз навамодны бумінг. Галоўны рэдактар загадвае зьмяніць карцінкі.
"ПАЙШЛІ ВЫ!". Гнёт сыходзіць зь 1М. Недасьведчаныя шукаюць тлумачэньняў, а варта пачытаць матэрыял. Пратэст - гэта модна.
"МЭРЧЭНДАЙЗЫНГ" Алёны Шалаевай. Не хадзіце ў краму, там завяліся яны!

**CD #4, 2003**
**ТЭМА: шоў-біз (Ш+Р = формула посьпеху)**
"REALITY-SHOW ПА-БЕЛАРУСКУ". Цуд прадбачаньня ад maryjki. Праз некалькі тыдняў групу беларускіх дзяўчат вывозяць на балота, і пачынаецца РЭАЛЬНАЕ шоў.
"ШОЎ-БІЗ І РЭЛІГІЯ" ад Машы Русіновіч і Андрэаса Копыса. Каму моляцца беларускія топ-пэрсоны.
"ПРАВАКАТАРЫ І ПРАПАГАНДЫСТЫ" ад Андрэя Гнёта. Узбуджаны Андрэй Донін па тэлефоне: "Не жадаю больш нічога чуць пра "CD"!" У анкетах "CD" чытачы пазначаюць лепшым аўтарам нумару... Доніна. Вычварэньні дызайнэра - слава павінна была дастацца Гнёту.

**CD #5, 2003**
**ТЭМА: сэкс-рэвалюцыя (мы знайшлі яго!!!)**
"СЭКС-ІНСТРУКТАРЫ" ад Валянціна Папляева і Вячаслава Чэха. Як гэта робіцца: дапаможнік з карцінкамі.
"СЭКС-РЭВАЛЮЦЫЯ" ад Макса Агеева. Разбурэньне культуры генітальным шляхам.
"БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ СЭКС: ТРАДЫЦЫІ І СУЧАСНАСЬЦЬ" ад TaSola. Нашыя продкі ня ведалі пра condoms.
"СЭКС У ВЯЛІКІМ ГОРАДЗЕ" ад Ігара Аляксеева. Званкі ў рэдакцыю: "Падкіньце адрасок!"
"МАСТУРБАЦЫЯ ФАРЭВА" ад Віялеты Золак, Андрэаса Копыса, Славы Скугарэўскага. "Ананізм" - не дыягназ, а сродак задавальненьня.

ДЭЖАВЮ


Агентство моделей
**METROPOLITAN**
приглашает девушек
(рост - от 172 см)
на конкурсной основе
для работы моделями.
При условии успешного
прохождения кастинга
девушка получает
возможность работать
на самых знаменитых
подиумах Парижа,
Милана, Нью-Йорка.

Лицензия № 1456

Мы ждем Вас в будние дни
с 9.00 до 18.00 по адресу:
ул. Гикало, д.3, офис 216.
Справки по тел.: 284 57 76.

www.metropolitanminsk.ru
metrominsk@tut.by

METROPOLITAN